# "Царква", № 3 (58), 2008

Падзеі і сьвяты

## "Я ўбачыў, што Каталіцкая Царква ў Беларусі жывая"



Упершыню ў гісторыі каталікі Беларусі сустракалі такога паважанага госьця – Дзяржаўнага Сакратара Яго Сьвятасьці Папы Бенядыкта XVI кардынала Тарчызіё Бэртонэ. На прэс-канферэнцыі кардынал Т.Бэртонэ, распавядаючы пра вынікі афіцыйнага візіту ў Беларусь, які праходзіў 18-22 чэрвеня 2008 г., адзначыў вельмі цёплы прыём і заўважыў, што "ён прайшоў вельмі пазітыўна".

У час свайго візіту кардынал Тарчызіё Бэртонэ наведаў Менск, Горадню і Пінск, дзе ўзначальваў урачыстыя набажэнствы, сустрэўся з ярархамі Каталіцкай і Праваслаўнай Царквы ды пазнаёміўся з жыцьцём каталіцкіх духоўных семінарыяў і парафіяў (абодвух абрадаў) у трох дыяцэзіях. Пасланьнік Папы меў таксама сустрэчы з кіраўніцтвам краіны, на якіх абмяркоўваліся пытаньні супрацоўніцтва Каталіцкай Царквы і Беларусі, рэалізацыя закону аб свабодзе веравызнаньня, а таксама месца Беларусі ў міжнароднай супольнасьці дзяржаваў як мосту паміж Захадам і Ўсходам.

"Беларусы – гэта тая нацыя, да якой Бенядыкт XVI ставіцца вельмі цёпла, і я спадзяюся, што мой візіт стане нечым накшталт прыходу Яна Хрысьціцеля, які падрыхтаваў дарогу і адчыніў брамы",– сказаў напрыканцы свайго візіту ў Беларусь Дзяржсакратар Папы.

**На фота:** Дзяржсакратар Ватыкану кард. Тарчызіё Бэртонэ.

Падзеі і сьвяты

## Сустрэча Дзяржаўнага Сакратара Сьвятой Сталіцы з Супольнасьцю БГКЦ

**Падчас свайго афіцыйнага візіту ў Беларусь, у чацьвер, 19 чэрвеня 2008 г., а 17-й гадзіне Яго Эмінэнцыя Кардынал Тарчызіё Бэртонэ – Дзяржсакратар Яго Сьвятасьці Папы Рымскага Бенядыкта XVI – сустрэўся з духавенствам і вернікамі Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы. Яго суправаджаў Апостальскі Нунцый у Беларусі Найдастойны Архібіскуп Марцін Відавіч. Сустрэча адбылася ў душпастарскім Цэнтры імя сьвятога Язэпа па вул. Арджанікідзэ ў Менску.**



Вернікі з усіх парафіяў БГКЦ, рыхтаваліся да сустрэчы з Пасланьнікам Папы праз засяроджаную малітву: а 15-й гадзіне ў Цэнтры сьвятога Язэпа адбылася ўрачыстая Боская Літургія, у саслужэньні якой узялі ўдзел практычна ўсе грэка-каталіцкія сьвятары БГКЦ. У вызначаную гадзіну Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі Архімандрыт Сяргей Гаек сустрэў Уладыку Кардынала Тарчызіё Бэртонэ і прасіў яго ўзначаліць малебен за ўсіх жыхароў Менску, а таксама асьвяціць некалькі іконаў, сярод якіх была ікона сьв. Язэпа для капліцы душпастырскага цэнтру і ікона Хрыста Чалавекалюбца для Санктуарыюма Божай міласэрнасьці ў Маладэчне.

Напрыканцы малебну Кардынал Тарчызіё зьвярнуўся да прысутных з цёплымі словамі (гл. яго Прамову), а пасьля ўдзяліў Блаславеньне ад імя Яго Сьвятасьці Папы Бенядыкта XVI.

На сустрэчы разам з Кардыналам Т. Бэртонэ ў грэка-каталіцкім цэнтры знаходзіўся таксама ўвесь епіскапат Рыма-Каталіцкай Царквы ў Беларусі: Кардынал Казімір Сьвёнтэк, Мітрапаліт Менска-Магілёўскі Тадэвуш Кандрусевіч, яго дапаможны Біскуп Антоні Дзям’янка, Біскуп Гарадзенскі Аляксандар Кашкевіч – старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі ды Біскуп Віцебскі Ўладзіслаў Блін.

Сярод высокіх гасьцей былі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь пры Сьвятым Пасадзе сп. Сяргей Алейнік, начальнік аддзелу па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў Менгарвыканкаму спн. Ала Рабіцава, кіраўнік адміністрацыі Заводзкага раёну г.Менску сп. Алег Жогла, а таксама яго намесьнік – спн. Людміла Бараноўская і начальнік аддзелу культуры Заводзкага раёну спн. Ірына Шугала.

Пасьля малебну VIP-госьці былі запрошаныя на вячэру да Апостальскага Візітатара БГКЦ Архімандрыта Сяргея Гаека; вернікаў чакаў таксама смачны пачастунак – барбекю. Вячэра адбылася, як неаднаразова падкрэсьлівалі самі госьці, у "цёплай сямейнай атмасферы". "Я сапраўды знаходжуся пад моцным уражаньнем той атмасферы, якая тут пануе,– гэта чалавечая цеплыня і жывая беларуская мова",– сказаў падчас вячэры за сталом сп. Алег Жогла.

**а. Андрэй Буйніч,**
*Прэс-служба Сакратарыяту Апостальскага Візітатара БГКЦ*

Падзеі і сьвяты

«Няхай Бог блаславіць
Грэка-Каталіцкую
Супольнасьць Беларусі»



**Прамова Кардынала Тарчызіё Бэртонэ,**
**Дзяржсакратара Сьвятой Сталіцы,**
**падчас сустрэчы з духавенствам і вернікамі БГКЦ**
*Менск, 19 чэрвеня 2008 году*



*Дарагі Архімандрыт, Апостальскі Візітатар Грэка-Каталіцкай Супольнасьці Беларусі,*
*Дарагія Браты ў Біскупстве,*
*Паважаныя Прадстаўнікі Ўладаў,*
*Дарагія Сьвятары, Манахі і Манахіні,*
*Дарагія Семінарысты,*
*Дарагія Браты і Сёстры!*

Гэтая наша сустрэча кароткая, але вельмі насычаная і сямейная. Дзякуй за вашую сардэчную гасьціну ў гэтым вашым душпастырскім цэнтры, прысьвечаным сьвятому Язэпу, Апекуну Царквы.

> *“Еднасьць у разнастайнасьці абрадаў, формаў і культураў ёсьць вялікім багацьцем Каталіцкай Царквы; яна зьяўляецца скарбам царкоўнай Сулучнасьці, якую мусім рупліва захоўваць, абараняючы яе ад усякай рызыкі ды небясьпекі”.*

Я хацеў бы прывітаць усіх вас з вялікай сардэчнасьцю. Перш за ўсё вітаю Апостальскага Візітатара для грэка-каталікоў у Беларусі Дастойнага Архімандрыта Яна Сяргея Гаека ды дзякую яму за ветлівыя словы прывітаньня, якія ён накіраваў да мяне ад імя ўсіх вас. Вітаю і дзякую прадстаўнікам духавенства і вернікам вашай Супольнасьці, якія ад вашага імя выказалі нам сардэчнае прывітаньне. Вітаю Біскупаў тут прысутных, а ў першую чаргу Апостальскага Нунцыя, Яго Эксцэленцыю Архібіскупа Марціна Відавіча, які прадстаўляе тут, у Беларусі, Сьвятога Айца. Вітаю Прадстаўнікоў Улады, якія захацелі прыняць удзел у гэтай нашай сустрэчы.



Да Яго Сьвятасьці Бенядыкта XVI хочам зьвярнуць зараз нашыя думкі. Я тут, сярод вас, ад Яго імя; прыношу вам Ягонае прывітаньне і Ягонае Блаславеньне ды запэўніваю вас у Ягоным сталым клопаце пра вашую Супольнасьць. Я ведаю, што вялікай ёсьць вашая Яму вернасьць, і за гэта дзякую вам.

Еднасьць у разнастайнасьці абрадаў, формаў і культураў ёсьць вялікім багацьцем Каталіцкай Царквы; яна зьяўляецца скарбам царкоўнай Сулучнасьці, якую мусім рупліва захоўваць, абараняючы яе ад усякай рызыкі ды небясьпекі. Каб застацца вернымі гэтай еднасьці, шматлікія мучанікі на працягу стагоддзяў пралівалі сваю кроў, як сьвятамучанік Язафат – сьвяты вельмі дарагі вам ды ўсім каталікам. Госпад кліча ўсіх нас насьледаваць тых нашых братоў і сёстраў у веры, сьведчаньне якіх зьзяе як яскравы прыклад ды заахвочвае трываць у вернасьці Евангельлю, таксама сярод цяжкасьцяў і выклікаў сучаснага пост-мадэрнага сьвету.



Калі я ўваходзіў у гэты ваш душпастырскі цэнтр, у гэтае месца малітвы, дзе зьбіраецца вашая Супольнасьць, я адчуў веру, якую ў вас ажыўляюць шматлікія іконы, якія вы шануеце з вялікай пабожнасьцю. Таму я сапраўды рады, што я мог асьвяціць ікону сьвятога Язэпа, якая застанецца памяткай гэтага майго візіту ў вашым доме.

Вы зьяўляецеся спадкаемцамі старажытнай літургічнай ды кананічнай традыцыі, якая ў Сьвятой Божай Царкве мае поўную годнасьць.

Сьвятому Язэпу, гэтаму сьвятому, які быў выбраны, каб клапаціцца пра Ісуса ды Ягоную Маці, Дзеву Марыю, давяраю ўсіх вас, вашыя сем’і, а асабліва моладзь.


Няхай сьвяты Язэп прыдбае вам дар давесьці да поўнага завершаньня місію, якую Бог прызначае кожнаму з вас; ён няхай блаславіць ды апякуецца вашымі сем’ямі; няхай узбудзіць пакліканьні да сьвятарства і да пасьвячанага Богу жыцьця; няхай ён сьцеражэ ваш Горад ды ваш Народ.

З любоўю паўтараю вам маю самую шчырую падзяку за вашую гасьціну ды – з гэтымі пачуцьцямі – клічу на ўсіх вас тут прысутных матчынае заступніцтва Найсьвятой Дзевы Марыі, Маці Божай ды Маці Царквы, Маці еднасьці ды Зоркі мужнай надзеі. У Ейныя рукі давяраю вас, каб вы маглі крочыць заўжды зьяднанымі ды трываць у вернасьці Яе Сыну Ісусу Хрысту.

Яшчэ раз дзякуй!

Няхай Бог блаславіць Грэка-Каталіцкую Супольнасьць Беларусі!

Падзеі і сьвяты

«Гэта момант глыбокай духовай Сулучнасьці»

**Прывітальнае Слова Архімандрыта Сяргея Гаека**
**падчас сустрэчы Дзяржаўнага Сакратара Сьвятой Сталіцы Кардынала Тарчызіё Бэртонэ**
**з духавенствам і вернікамі БГКЦ 19 чэрвеня 2008 г. у Менску**

*Эмінэнцыя, Высокадастойны Ўладыка Кардынал Тарчызіё,*
*Эксцэленцыя, Высокадастойны Ўладыка*
*Апостальскі Нунцый Архібіскуп Марцін,*
*Эмінэнцыя, Эксцэленцыі, Дастойныя Ярархі*
*Рыма-Каталіцкай Царквы ў Беларусі,*
*паважаныя Прадстаўнікі Ўладаў Дзяржаўных, гарадзкіх, раённых.*
*Браты і Сёстры!*



1. Першапастыр Паўсюднай (Каталіцкай) Царквы Яго Сьвятасьць Папа Рымскі Бенядыкт XVI прыслаў у нашую Богам любімую Бацькаўшчыну Беларусь, Вас, Эмінэнцыя Кардынал Тарчызіё, свайго бліжэйшага Супрацоўніка – Дзяржаўнага Сакратара Сьвятой Сталіцы.

Абедзьве часткі Вашага візіту ў Беларусь – дзяржаўную і рэлігійную – грэка-каталікі (каталікі візантыйскага абраду ў Беларусі) суправаджаюць сваімі малітвамі.

Ад свайго і іх імя, ад імя сьвятароў, манахаў, манахіняў, семінарыстаў ды ўсіх вернікаў Супольнасьці Грэка-Каталіцкай Царквы Беларусі вітаю Вас, Эмінэнцыя, вельмі шчыра тут, у гэтым грэка-каталіцкім душпастырскім цэнтры ў Менску.

2. Вернікі паасобных грэка-каталіцкіх парафіяў Беларусі, разам са сваімі душпастырамі, уключаюцца ў малітоўныя сустрэчы з Вамі, Высокім Прадстаўніком Сьвятога Айца, разам з нашымі братамі і сёстрамі рыма-каталікамі ў Пінску, Горадні і Менску.

Аднак сёньняшняя сустрэча тут, у Менску, у гэтым душпастырскім цэнтры, мае асаблівы характар; Вашая сустрэча – з прадстаўнікамі духавенства і вернікаў грэка-каталіцкіх парафіяў Беларусі.

Эмінэнцыя Кардынал Тарчызіё! Праз Вашае пастырскае служэньне як Пасланьніка Сьвятога Айца – гэта ёсьць момант глыбокай духовай Сулучнасьці (Communio) Паўнаты нашае Царквы з Найвышэйшым Пастырам Бенядыктам XVI.

Гэта ёсьць час малітвы да Хрыста Чалавекалюбцы – малітвы разам з Валадаркай Беларусі Найсьвятой Багародзіцай Марыяй, Сьвятым Язэпам, Сьвятым Язафатам ды ўсімі Сьвятымі Беларускай Зямлі, асабліва з Беларускімі Новамучанікамі XX стагоддзя.

Гэта блаславёны час паглыбленьня ў жыцьці сьвятароў і вернікаў веры і надзеі, крыніцай якіх ёсьць Слова Божае, ды ўзмацненьне служэньня нашае Царквы дзеля духовага дабра Беларускага Народу, як гэта на працягу стагоддзяў рабіла Ўніяцкая Царква на Беларускіх Землях.

3. Праз хвіліну пачнем Малебен, малітву за ўсіх жыхароў горада Менску. Таму цешымся, што з намі ёсьць тут паважаныя Прадстаўнікі Ўладаў Дзяржаўных, гарадзкіх, раённых. На гэтым месцы дзякуем усім ім за дапамогу, якую мы атрымалі, каб годна прыняць Вас, Эмінэнцыя.

Прымаем Вас, Уладыка Кардынал, як нашага Пастыра ды просім узначаліць гэтую

малітоўную сустрэчу.

*Менск, 19 чэрвеня 2008 г.*

**+ Архімандрыт Сяргей Гаек**
**Апостальскі Візітатар**

Падзеі і сьвяты

Адкрыцьцё Году сьв. Паўла ў Рыме



**28 чэрвеня 2008 г. у рымскай базыліцы сьв. Паўла «за мурамі горада» Яго Сьвятасьць Папа Бенядыкт XVI адкрыў Год сьв. Апостала Паўла. Год сьв. Паўла мае экуменічны характар, таму ў цырымоніі адкрыцьця ўдзельнічаў таксама Канстанцінопальскі Патрыярх Яго Сьвятасьць Бартламей I і высокія ярархі іншых хрысьціянскіх Цэркваў: праваслаўных (у тым ліку РПЦ з Украіны), дахалкідонскіх (нехалкідонскіх), англіканскай і пратэстанцкіх.**



Ва ўрачыстай Вячэрні падчас адкрыцьця гэтага юбілейнага году ўдзельнічалі шматлікія ярархі (кардыналы, біскупы) Каталіцкай Царквы, сярод іх і грэка-каталіцкі мелхіцкі Патрыярх Антыёхіі Яго Блаславенства Рыгор III.

У нядзелю, 29 чэрвеня 2008 г., ва ўрачыстасьць сьвятых Вярхоўных Апосталаў Пятра і Паўла, у базыліцы сьв. Пятра ў Ватыкане, Папа Бенядыкт XVI, згодна з традыцыяй, наклаў на плечы новапрызначаных мітрапалітаў паліюм, знак іх мітрапалічай улады.


Сярод мітрапалітаў, якія атрымалі паліюм, быў Архібіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, Мітрапаліт Менска-Магілёўскі (на здымку) і Мітрапаліт Славацкай Грэка-Каталіцкай Царквы, Архібіскуп Прэшаўскі Ўладыка Ян Бабяк.

У гэтых урачыстасьцях удзельнічалі з Беларусі Біскуп Віцебскай Дыяцэзіі Ўладыка Ўладзіслаў Блін і Апостальскі Візітатар БГКЦ Архімандрыт Сяргей (Гаек) разам з групай пілігрымаў, якія адмыслова прыбылі у Рым.

**На фота:**

1. Рым, базыліка сьв. Паўла, 28.06.2008. Папа Бенядыкт XVI і Патрыярх Бартламей I на адкрыцьці Году сьв. Паўла.

2. 29.06.2008. Папа Бенядыкт XVI вітае мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча пасьля атрыманьня паліюма.

3. Рым, 28.06.2008. Ярархі ўсходніх Цэркваў вітаюць Папу Бенядыкта XVI.

Навіны хрысьціянскага сьвету

## Беларускі сьвятар — кансультар Папскай юрыдычнай Рады


**26 ліпеня 2008 г. Сьвяты Айцец Бенядыкт XVI прызначыў айца праф. Луіса Акуліка (гл. фота) кансультарам Папскай Рады па справах кананічных заканадаўчых тэкстаў (Consiglio per i Testi Legislativi).**

Айцец Луіс Акулік — беларус паходжаньнем (продкі ягоныя зьехалі з Менску), зьяўляецца грамадзянінам Аргентыны. Цікава адзначыць – ён прызнаецца ў сваёй усходняй царкоўнай традыцыі. Некалькі гадоў таму ён наведаў Беларусь. Як царкоўны юрыст ён супрацоўнічае з Сакратарыятам Апостальскага Візітатара для грэка-католікаў Беларусі. Айцец Л.Акулік зьяўляецца прафесарам у Інстытуце царкоўнага права сьв. Пія X у Венецыі, дзе выкладае між іншым і кананічнае права Ўсходніх Каталіцкіх Цэркваў.

У гэты ж дзень кансультарамі той жа Папскай Рады па справах заканадаўчых тэкстаў былі прызначаныя два іншыя прыяцелі БГКЦ – айцец праф. Кірыла Васіль, SJ (рэктар Папскага Інстытуту Orientale ў Рыме) і айцец праф. Ларэнца Ларуса, OP (выкладчык таго ж Інстытуту Orientale).

# XIV штогадовая Пілігрымка Віцебск-Полацак

**У нядзелю, 13 ліпеня 2008 г., завяршылася XIV штогадовая Пілігрымка беларускіх грэка-католікаў з Віцебска ў Полацак, якая праходзіла сёлета 8-12 ліпеня пад дэвізам: "Любоў Хрыста заахвочвае нас" (2 Кар 5, 14). У ёй бралі ўдзел вернікі з парафіяў БГКЦ з усіх рэгіёнаў Беларусі. Сярод удзельнікаў пілігрымкі былі таксама рыма-католікі і праваслаўныя, а таксама госьці з Расеі, Украіны, Польшчы, Бельгіі, Францыі. Сёлета заканчэньне пілігрымкі супала са сьвятам Полацкай Барысаглебскай абіцелі манахаў-студытаў.**



Сьвяточную Боскую Літургію ля храму сьв. Параскевы ў Полацку ў нядзелю, 13 ліпеня, узначаліў Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі Архімандрыт Сяргей Гаек у саслужэньні сьвятароў з розных парафіяў БГКЦ, у тым ліку настаяцеля манастыра сьв. Барыса і Глеба ераманаха Лявонція (Тумоўскага) і айца Зьмітра Грышана – новага протапрасьвітара Ўсходняга дэканату БГКЦ (на фота – з крыжам).

Да ўдзельнікаў сьвяткаваньняў накіраваў сваё Слова Апостальскі Нунцый у Беларусі Архібіскуп Марцін Відавіч. .

Сьпеў Боскай Літургіі вёў міжпарафіяльны моладзевы хор "Прасфара".

Архімандрыт Сяргей у сваім казаньні зьвярнуў увагу вернікаў, што гэтае агульнацаркоўнае сьвяткаваньне праходзіць у душпастырскім годзе, які Каталіцкая Царква ў Беларусі візантыйскага і лацінскага абрадаў перажывае пад дэвізам: "Слова Божае – крыніца надзеі". Слова Божае заклікае хрысьціянаў усіх канфесіяў несьці сучаснаму сьвету сьведчаньне праўдзівага жыцьця ў Хрысьце. Такое сьведчаньне далі ў свой час сьвятыя Барыс і Глеб – патроны Полацкай манаскай абіцелі, а таксама нашыя сучасьнікі, што сталіся ахвярамі фашысцкага генацыду жыхароў Беларусі – Экзарх беларускіх грэка-католікаў а. Антон Неманцэвіч (+ 06.01.1943) і Блаславёная Мар’яна Бярнацкая (+ 13.07.1943), 65-годдзе пакутніцкае сьмерці якіх адзначаецца ў гэтым годзе.

Нядзельная Боская Літургія напрыканцы пілігрымкі была таксама падзякаю за дар сьв. Хросту, які 1020 гадоў таму прыняў сьв. князь Уладзімір і нашыя продкі.



# «Прыклад руплівых і сьвятых сьвятароў – заклік да вернасьці Хрысту»

**8 і 9 жніўня 2008 году ў Росіцы (Верхнядзьвінскі раён, Віцебская дыяцэзія) прайшлі штогадовыя ўрачыстасьці ў гонар Блаславёных мучанікаў Антона (Ляшчэвіча) і Юрыя (Кашыры), ераманахаў Ордэну Айцоў Марыянаў. Яны ўваходзяць у сьпіс 11-ці беларускіх новамучанікаў сярод 108 мучанікаў часоў II Сусьветнай вайны, беатыфікаваных Папам Янам Паўлам II у 1999 годзе.**

Мучаніцкую сьмерць прынялі Блаславёны Антон – 17 лютага 1943 году, а Блаславёны Юры – 18 лютага разам з больш за 1500 жыхарамі Росіцы і навакольных вёсак, якіх фашысты спалілі падчас карнай акцыі пацыфікацыі 65 гадоў таму. Блаславёны Юры Кашыра паходзіў з беларускай сям’і з уніяцкімі каранямі, а Блаславёны Антон Ляшчэвіч, які ў 1920-1937 гг. працаваў у Харбіне ў Манчжурыі, быў блізка зьвязаны з беларускімі марыянамі, што працавалі тады ва Ўсходняй місіі ў тым жа Харбіне.

Пачынаючы ад 1999 году – году беатыфікацыі – штогод, у сярэдзіне жніўня, вернікі зьбіраюцца на рэлігійныя ўрачыстасьці, каб ушанаваць памяць Блаславёных новамучанікаў Росіцкіх. Частка з іх прыходзіць у Росіцу ў пешых

пілігрымках; традыцыйнымі сталі ўжо пілігрымкі з Друі і Полацку. У Росіцу, акрамя рыма-католікаў, прыходзяць таксама грэка-католікі і нават праваслаўныя. Асабліва шмат сярод пілігрымаў моладзі.

У гэтым годзе сьвятую Імшу а 24-й гадзіне, у пятніцу, 8 жніўня ўзначаліў Біскуп Віцебскай дыяцэзіі Ўладыка Ўладзіслаў Блін, які ў казаньні гаварыў пра руплівых і сьвятых сьвятароў – мучанікаў Антона і Юрыя, якія ёсьць прыкладам і заклікам для нас да вернасьці Хрысту ў кожнай жыцьцёвай сітуацыі. Пасьля сьв. Імшы адбылася ўрачыстая працэсія са сьвечкамі да месца іх мучаніцтва.

Урачыстую сьв. Імшу на заканчэньне сьвяткаваньняў, у суботу, а 12-й гадзіне, узначаліў Генеральны вікарый Віцебскай дыяцэзіі пралат Францішак Кісель з Полацку. Ва ўрачыстасьцях удзельнічаў таксама Правінцыял Айцоў Марыянаў з Варшавы ды айцец д-р Пётр Смалінскі з Рыму, які ў Сакратарыяце Апостальскага Візітатара для грэка-католікаў Беларусі адказвае за замежныя багаслоўскія студыі.

Падчас урачыстасьцяў грэка-католікі (з Полацку, Віцебску, Менску, Барысава, Воршы, Івацэвічаў) згодна з традыцыяй, адсьпявалі Акафіст да Багародзіцы (у пятніцу вечарам) і адслужылі Боскую Літургію (у суботу раніцай), якую ўзначаліў Архімандрыт Сяргей (Гаек), Апостальскі Візітатар БГКЦ, у саслужэньні Протапрасьвітара Ўсходняга дэканату а. Зьмітра Грышана, а таксама а. Аляксандра Шаўцова з Полацку, а. Пахома Кавалёва і а. Яўгена Ўсошына з Менску ды а. Рамана з Віцебску.

Акафіст быў адслужаны як малітва за пастаяннага Прадстаўніка Сьвятога Айца ў Беларусі – Апостальскага Нунцыя Архібіскупа Марціна Відавіча; Боская Літургія была адслужаная за тых рыма-каталіцкіх сьвятароў, якія ў сваіх храмах госьцяць грэка-каталіцкія парафіяльныя супольнасьці, асабліва за менскіх Айцоў Дэканаў Ігара Лашука і Ўладзіслава Завальнюка.

*(На старонках "РАЗАМ" прапануем сьведчаньне аднаго з семінарыстаў БГКЦ, які ўдзельнічаў у пілігрымцы ў Росіцу).*

Парафіяльнае жыцьцё

## Малітоўны ўспамін блаславёнай Мар’яны Бярнацкай

**Гарадзенскія грэка-каталікі 13 ліпеня 2008 году ўшанавалі памяць блаславёнай часоў II Сусьветнай вайны, якая мае ўніяцкія карані.**



Вёска Навумавічы – адна з шматлікіх вёсак у ваколіцах Горадні. Аднак для каталікоў гораду над Нёманам – гэта асаблівае месца. Каля вёскі Навумавічы, што за 10 кіламетраў ад гораду, на старых фартах часоў I Сусьветнай вайны ў часы II Сусьветнай вайны фашысты праводзілі расстрэлы мірных жыхароў Горадні і ваколіцаў, сярод іх былі каталіцкія сьвятары, манахі і манахіні, простыя вернікі. Усяго падчас расстрэлаў 20 кастрычніка 1942 году, а таксама 13 і 15 ліпеня 1943 году каля Навумавічаў былі забітыя каля дзьвюх соцень чалавек. На сёньняшні дзень удалося выявіць 150 імёнаў расстраляных людзей.



Дзень 13 ліпеня стаў для гарадзенскіх каталікоў днём малітоўнага ўспаміну тых, хто загінуў каля Навумавічаў. У гэты дзень у 1943 годзе была расстраляная Мар’яна

Бярнацкая – простая жанчына з Ліпска (мястэчка кіламетраў за дваццаць ад Горадні, якое знаходзіцца сёньня ў Польшчы). Ліпск і ваколіцы гістарычна непарыўна былі шчыльна зьвязаныя з Сапоцкінскім краем да 1945 году, калі была ўстаноўлена новая беларуска-польская мяжа. У часы Уніі мястэчка было цэнтрам адной з уніяцкіх парафіяў Аўгустоўскага дэканату, які ахопліваў таксама паўночную частку сёньняшняга Гарадзенскага раёну і ўваходзіў у склад Холмскай уніяцкай япархіі. Як вядома, гэтая ўніяцкая япархія праіснавала да 1875 году. Таму Сапоцкінскі край быў адзіным рэгіёнам сучаснай Беларусі, дзе ўніяцтва не было зьнішчанае і заставалася пасьля полацкага сабору 1839 году.

Блаславёная Мар'яна нарадзілася ў сям'і ўніятаў, гвалтам запісаных у праваслаўе, якія на справе захоўвалі каталіцкую веру. Вядома, што ў Ліпску ўніяты, зачыніўшыся ў царкве, доўгі час не пускалі царскіх чыноўнікаў і праваслаўнага сьвятара, якім удалося забраць сьвятыню толькі з дапамогай казацкіх нагаек. Дакладная дата нараджэньня Мар'яны Бярнацкай невядомая, але прынята лічыць, што яна нарадзілася ў 1888 годзе. Такім чынам сёлета прыпаў падвойны юбілей — 120-годдзе яе нараджэньня і 65-ая гадавіна мучаніцкай сьмерці.



Падчас апошняй вайны гэтая кабета, якая была ўжо ў сталым веку, жыла разам з сям'ёй свайго сына. Пасьля забіцьця партызанамі ў Ліпску нямецкага жаўнера акупанты вырашылі адпомсьціць і ўзяць у закладнікі мірных жыхароў мястэчка, у сьпіс якіх трапілі сын і цяжарная нявестка Блаславёнай. Калі ў дом Бярнацкіх зайшоў узброены нямецкі жаўнер, каб забраць сына і нявестку, Мар'яна Бярнацкая пачала на каленях прасіць яго ўзяць яе замест цяжарнай нявесткі, каб пайсьці такім чынам на верную сьмерць, але ўратаваць ёй жыцьцё і жыцьцё будучаму дзіцяці.

Разам з іншымі закладнікамі Мар'яна Бярнацкая была расстраляная на навумавіцкіх фартах пад Горадняй. За гэты подзьвіг Сьвяты Айцец Ян Павел ІІ у чэрвені 1999 году далучыў яе да ліку блаславёных сярод 108 новамучанікаў з часоў ІІ Сусьветнай вайны.

Памяць Блаславёнай Мар'яны для гарадзенскіх грэка-каталікоў – гэта асаблівы дзень малітоўнага ўспаміну ўсіх мучанікаў-уніятаў.



Распачаўся ён малітваю каля капліцы сьв. Пятра і Паўла ў былым маёнтку Адамавічы, які сёньня ўваходзіць у межы Горадні. Працягам малітоўнага ўспаміну сталася малітва акафісту ў касьцёле ў вёсцы Адамавічы перад цудатворным абразом Маці Божай. Касьцёл у Адамавічах ніколі не зачыняўся – ні ў гады царскага перасьледу, ні ў час перасьледу камуністычнага, таму быў месцам малітвы для ўніятаў, якія патаемна захоўвалі вернасьць Еднасьці. Гарадзенскія грэка-каталікі прынялі таксама ўдзел у сьвятой Імшы, якую адслужыў рыма-каталіцкі біскуп Гарадзенскі Аляксандар Кашкевіч на месцы расстрэлу Блаславёнай Мар'яны і іншых мучанікаў, вядомых і невядомых. Частка вернікаў парафіі Маці Божае Фацімскай, разам з рыма-каталікамі, прайшлі шлях у Навумавічы з Горадні пешшу (гл. фота).

Напрыканцы імшы душпастыр гарадзенскіх грэка-каталікоў айцец Андрэй Крот зачытаў Пастырскае прывітаньне

Апостальскага Візітатара БГКЦ архімандрыта Сяргея (Гаека), скіраванае ўдзельнікам малітоўнага ўспаміну новамучаніцы Блаславёнай Мар’яны Бярнацкай. Для нас, беларускіх грэка-каталікаў, вытрываласьць у каталіцкай веры былых уніятаў і, як адзначыў у сваім пасланьні Архімандрыт Сяргей Гаек, само існаваньне пасьля 1839 г. Аўгустоўскага ўніяцкага дэканату "выяўляе неразрыўнасьць гісторыі і духоўнай традыцыі нашай Царквы ў Беларусі", а "Блаславёная Мар’яна і ейная ахвяра жыцьця адкрывае нам нашыя духоўныя карані".



Гэтую дабраахвотную ахвяру благаславёнай Мар’яны Бярнацкай Апостальскі Візітатар БГКЦ параўнаў з ахвяраю сьв. Язафата і з ахвяраю самога Госпада: "Мужныя словы – "я пайду замест яе", якія Блаславёная вымавіла, аддаючы сябе на сьмерць замест сваёй цяжарнай нявесткі, нагадваюць два падобныя здарэньні: першае мела месца ў Аліўным садзе, і тады Сам Госпад аддаваў Сябе на сьмерць – "дык вось, калі Мяне шукаеце, пакіньце іх, хай ідуць" (Ян 18, 8), а другое адбылося 12 лістапада 1623 году ў Віцебску, калі аддаваў сябе на сьмерць Сьвяты Язафат – магутны заступнік Беларусі – "у чым яны вінаватыя, вось я сам" (A. Welykyj, "S. Josaphat", I, 14). Гэтыя факты заклікаюць нас усіх асэнсаваць нашае пакліканьне сьведчыць Еднасьць і Любоў у сучасным сьвеце",– напісаў Архімандрыт Сяргей і нагадаў словы Госпада: "Гэта ёсьць запаведзь Мая, палюбеце ж адзін аднаго, як Я палюбіў вас. Няма большае за тую любоў, як калі хто пакладзе душу сваю за сяброў сваіх" (Ян 15, 12-13).



Апостальскі Візітатар БГКЦ архім. Сяргей Гаек таксама зьвярнуў увагу на важнасьць жывога прыкладу любові, які дала Блаславёная Мар’яна для сучаснага сьвету, дзе "забіць ненароджанае дзіця падаецца як дасягненьне цывілізацыі", дзе "адкідаецца каштоўнасьць хрысьціянскай сям’і, але аб’яўляецца т.зв. "свабодная любоў", дзе пра ахвярнасьць няма і мовы".

"Хай Блаславёная Мар’яна Бярнацкая моліцца за ўсіх тых, хто застаецца верным Сьвятому Евангельлю і Каталіцкай Царкве ў Беларусі",– закончыў сваё пасланьне Архімандрыт Сяргей.

**а. Андрэй Крот, Ігар Бараноўскі**

### На фота:

1. Блаславёная Мар'яна Бярнацкая

2. Сьв. Імша ў Навумавічах -- месцы расстрэлу Блаславёнай Мар’яны і іншых мучанікаў.

3-6. Гарадзенскія грэка-каталікі падчас пешай пілігрымкі ў Навумавічы.

Парафіяльнае жыцьцё

## Сьвята ў Браславе

**22 жніўня 2008 г. у Браславе ў дзясяты раз прайшло сьвята іконы Маці Божай Валадаркі азёраў. Гэтай былой грэка-каталіцкай іконай і сьвятыняй апякуецца сёньня Рыма-Каталіцкая Царква.**



У сьвяце прынялі ўдзел прадстаўнікі беларускага, расейскага і польскага духавенства Рыма-Каталіцкай і Грэка-Каталіцкай Цэрквaў. Ад БГКЦ прыехала дэлегацыя з адзінаццаці чалавек, якую ўзначальваў Апостальскі Візітатар архім. Сяргей Гаек.

Сьвята распачала грэка-каталіцкая моладзь прыгожым усходнім сьпевам Акафісту Маці Божай. Пасьля была адслужана ўрачыстая сьвятая Імша, якую ўзначальваў Апостальскі Нунцый Марцін Відавіч. Малітва праходзіла пад адкрытым небам, а вельмі блізкая прысутнасьць возера ахалоджвала сьпякоту дня. На супольнай малітве вакол алтара сабралася каля 1,5 тысячы вернікаў. Было вельмі шмат маладых людзей, большасьць з якіх засталася таксама і на чатырохдзённыя рэкалекцыі.

**Паводле сайту jazep.org**

**На фота:** Старажытная ўніяцкая ікона Маці Божай Валадаркі азёраў.

Парафіяльнае жыцьцё

## У дзясятую гадавіну

## Памяці протапрасьвітара Яна Матусевіча

**Гэтага сьвятара ведалі многія ў Беларусі. Мажны, абапіраючыся на кавеньку, ён прыходзіў на сходы і мітынгі. Ён быў першы каталіцкі сьвятар, які ў гады перабудовы загаварыў да шырокай аўдыторыі. І загаварыў па-беларуску.**



Ён прыйшоў на Ўстаноўчы зьезд Беларускага народнага фронту, каб нагадаць пра хрысьціянскія традыцыі і хрысьціянскія каштоўнасьці. Паколькі зьезд праходзіў у дзень сьвятога Яна Хрысьціцеля, ён запрасіў яго ўдзельнікаў на імшу ў касьцёл сьвятога Мікалая – той самы касьцёл, у якім шмат гадоў, аж да трагічнага арышту, служыў айцец Адам Станкевіч.

З айцом Адамам гэтага ксяндза яднала ня толькі тое, што яны былі беларускімі сьвятарамі Рыма-Каталіцкай Царквы. Тыя, хто пазнаёміўся з айцом Янам бліжэй, ведаў, што ён, як ксёндз Адам Станкевіч,– бібліяфіл і што асаблівым ягоным хобі было зьбіраньне кніг пра мастацтва.

Як і ксёндз Адам Станкевіч, айцец Ян глядзеў на хрысьціянства ў Беларусі не з вузкаканфесійнага гледзішча. Ён быў адкрыты для дыялогу з праваслаўнымі і пратэстантамі. І таму невыпадкова ён стаў адным з сузаснавальнікаў Беларускага біблійнага таварыства, у якое ўвайшлі прадстаўнікі розных канфесіяў і дэнамінацыяў.

Мажліва гэтай адкрытасьці спрыяла тое, што каталіцкі сьвятар Ян Матусевіч (так склалася) скончыў праваслаўную духоўную семінарыю і добра ведаў багатыя духоўныя традыцыі хрысьціянскага Ўсходу.

Сьвятло Ўсходу (так называлася адно з Апостальскіх пасланьняў Папы Яна Паўла ІІ) заўсёды было ў сэрцы, у сьвядомасьці рыма-каталіцкага сьвятара Яна Матусевіча. Да таго ж ён і служыў у асаблівай мясцовасьці – у Барунах, што на Ашмяншчыне. Служыў у сьценах былога ўніяцкага манастыра. У гэтых базыльянскіх мурах ён сузіраў абраз Маці Божае Барунскае, які шануюць і каталікі, і праваслаўныя. Маліўся ля яго. І той, хто ведаў айца Яна, анітрохі не зьдзівіўся, калі на самым заранку другога абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі ён стаў грэка-каталіцкім сьвятаром. Бо хто такі грэка-католік, уніят? Гэта праваслаўны, які жыве ў еднасьці з Рымам, з пасадам апостала Пятра. Праваслаўны, які ня хоча падзелу хрысьціянства на ўсходняе і заходняе.

Тады, на пачатку 1990-х, Ян Матусевіч быў другім грэка-каталіцкім сьвятаром у Беларусі. Першым быў ужо немалады былы вязень ГУЛАГу айцец Віктар Данілаў, якога таемна высьвяцілі яшчэ ў савецкі час. Айцец Віктар жыў у Горадні. І таму дэканам Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы быў пастаўлены маладзейшы за айца Віктара на дваццаць гадоў жыхар сталіцы айцец Ян Матусевіч.

Нехта яшчэ напіша гісторыю станаўленьня сучаснае Грэка-Каталіцкае Царквы ў Беларусі, гісторыю заснаваньня першай парафіі Сьвятога і Праведнага Язэпа ў Менску, якая адпраўляла літургію то на прыватных кватэрах, то ў падвалах, то ў "чырвоных кутках". Нехта яшчэ напіша пра тыя перашкоды Царкве, якія чыніла і чыніць ёй дзяржаўная ўлада. Але такая ўжо ў нас зямля, такая глеба, дзе сышліся Ўсход і Захад, грэцкія і лацінскія традыцыі.

Цяпер БГКЦ мае больш за дваццаць парафіяў. І калі айцец Ян Матусевіч быў першым і адзіным дэканам Царквы, дык цяпер ёсьць ужо два дэканаты. І адзін з іх, а таксама парафію Сьвятога Язэпа ўзначальвае гадунец айца Яна – протапрасьвітар Андрэй Абламейка.

За гэтыя гады Царква атрымала пятнаццаць сьвятароў і мае семінарыстаў. А тое, што ў Беларусі зьявілася грэка-каталіцкае манаства, можна разглядаць як заруку будучыні Царквы, бо, як правіла, з манахаў паходзяць уладыкі, рэктары, прэфекты.

З верай і надзеяй гледзячы ў будучыню, беларускія грэка-католікі з удзячнасьцю згадваюць у гэты дзень айца Яна Матусевіча, які пакінуў нас роўна дзесяць гадоў таму.

**Анатоль Сідарэвіч,** *г.Менск*

**На фота:** айцец Ян Матусевіч з інтэлегенцыяй.

# Памяць пра дэкана БГКЦ

**2 верасьня споўнілася 10 гадоў, як памёр першы душпастыр менскай парафіі сьв. Язэпа, дэкан БГКЦ айцец Ян Матусевіч.**



На Кальварыі ў Менску над магілай былога дэкана БГКЦ айца Яна Матусевіча 2 верасьня 2008 г. была адслужана паніхіда. А ўвечары, а 19-й гадз. у Грэка-каталіцкім цэнтры імя Сьвятога і Праведнага Язэпа (вул. Арджанікідзэ, 6) была адслужана сьв. Літургія ў памяць пра айца Яна. Разам з дэканам Цэнтральна-Заходняга протапрасьвітарату імя сьвятамучаніка Мікалая Чарнецкага а. Андрэем Абламейкам яе служыла менскае грэка-каталіцкае духавенства.

Айцец Ян быў ня толькі першым парахам у Менску, але для многіх, у тым ліку з іншых гарадоў Беларусі, стаўся сьвятаром, праз якога адбылося знаёмства з Царквой, з Богам. Ён быў сапраўдным душпастырам інтэлігенцыі – кагосьці хрысьціў, кагосьці прыняў да першай споведзі, многіх вянчаў.

Сьвятар БГКЦ а. Пахом Кавалёў:

"Айцец Ян Матусевіч мяне ахрысьціў, стаўся тым, з каго пачалося маё жыцьцё хрысьціяніна. Хрост адбыўся на кватэры айца. Я памятаю, што, калі выйшаў, неяк нічога не адчуваў. Нават зьдзівіўся. Але калі ехаў ужо ў аўтобусе дахаты, раптам зразумеў: навокал людзі, якіх хочацца любіць. Мне стала сорамна, што раней іначай ставіўся да людзей, я зразумеў – цяпер з Хрыстом гатовы прабачыць і папрасіць прабачэньня..."


Дэкан Цэнтральна-Заходняга дэканату БГКЦ а. Андрэй Абламейка (на фота з а. Янам):

"Айцец Ян Матусевіч для мяне быў маім духоўным айцом. Ён запомніўся мне такім вельмі дабрадушным, вясёлым чалавекам, заўсёды гатовым выслухаць цябе, памагчы, нешта табе падараваць. Першая Біблія, якую я займеў у сваім жыцьці,– гэта была Біблія, якую ён мне падараваў. І для мяне асабіста ён быў вельмі блізкі. У яго я прыступіў да першай споведзі. Ён хрысьціў маю жонку Сьвятлану, пасьля нас вянчаў, пасьля хрысьціў сына Багдана. І ён жа даў мне рэкамендацыю для дыяканату і сьвятарства..."

Паводле сайту jazep.org

На фота:

1. Дэкан БГКЦ а. Ян Матусевіч з цяперашнім дэканам Цэнтральна-Заходняга дэканату а. Андрэем Абламейкам.

2. Паніхіда над магілай а. Яна Матусевіча на Кальварыйскіх могілках у Менску.

Парафіяльнае жыцьцё

## Прыкры фільм пра Унію

**Візіт у нашу краіну Дзяржаўнага Сакратара Яго Сьвятасьці Бенядыкта XVI кардынала Тарчызіё Бэртонэ 18-22 чэрвеня 2008 г. стаў надзвычай важнай падзеяй у рэлігійным і грамадзкім жыцьці. Аднак агульны спрыяльны фон гэтага візіту і яго станоўчыя вынікі былі некалькі азмрочаны адной прыкрасьцю. Уласна ў час сустрэчаў высокага госьця з Ватыкану з прадстаўнікамі царкоўных колаў, дзяржаўнымі чыноўнікамі і грамадзкасьцю на Першым нацыянальным канале быў паказаны недарэчны і выключна тэндэнцыйны фільм пра Берасьцейскую Унію і палітыку Ватыкану ў мінулыя часы. Непрыемна ўражаныя такім стаўленьнем да рэлігійных пачуцьцяў часткі грамадзянаў-каталікаў, вернікі грэка-каталіцкай канфесіі з парафіяў Маці Божай Фацімскай у Горадні і сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя ў Берасьці накіравалі калектыўныя лісты з подпісамі кіраўніцтву Першага нацыянальнага канала Белтэлерадыёкампаніі і Ўпаўнаважанаму па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь з просьбай даць належную ацэнку гэтаму прыкраму факту, бо такое стаўленьне "зусім не спрыяе ўсталяваньню даверу вернікаў грэка-каталіцкай і рыма-каталіцкай канфесіяў да дзяржаўнай палітыкі" і захаваньню рэлігійнага міру ў краіне. Вось што яны пісалі ў сваіх лістах:**

"У суботу, 21 чэрвеня 2008 году, на Першым нацыянальным канале ў цыкле "Летапіс часоў" быў паказаны фільм, прысьвечаны Берасьцейскай Уніі. У згаданым фільме пад выглядам гістарычных фактаў гледачу прапаноўваліся далёкія ад гістарычнай праўды міфы і ідэалагічныя штампы савецкіх часоў пра гісторыю Ўніяцкай Царквы і яе дзейнасьць. Нашая Грэка-Каталіцкая Царква, езуіты, а таксама і Апостальская Сталіца, былі паказаныя як выключна варожыя беларускаму народу, з якімі зьвязаны ці ня самыя цёмныя старонкі ў складанай гісторыі беларускага народу. У той жа час выключна станоўча, як абаронца беларускага народу, была паказана такая неадназначная зьява, як казацтва і яе правадыры, хоць гісторыкам добра вядомыя факты зьнішчэньня і рабаваньня казацкімі войскамі (у розныя перыяды гісторыі) многіх гарадоў Беларусі (у тым ліку Жыровічаў) з іх цэрквамі, манастырамі і сьвятынямі, якія належалі розным канфесіям, у тым ліку і праваслаўным. Нельга не адзначыць, што паказ гэтага фільму адбываўся падчас важнага візіту ў Беларусь Дзяржаўнага Сакратара Яго Сьвятасьці Бенядыкта XVI кардынала Тарчызіё Бэртонэ.

Таму глядзець гэты фільм каталікам абодвух абрадаў удвайне было дзіўна, балюча і крыўдна.

Фільм ня толькі супярэчыць сучаснай гістарычнай навуцы, якая насамрэч высока ацэньвае ўнёсак Уніяцкай Царквы ў культуру і працэс фармаваньня беларускай нацыі. На нашу думку, аўтары фільму, карыстаючыся безадказнай рыторыкай, якая скіравана на распальваньне міжканфесійнай варожасьці ў нашай краіне, паказваюць Грэка-Каталіцкую Царкву як агрэсіўную, варожую Праваслаўнай Царкве і беларускаму народу канфесію, што была з палітычнымі мэтамі гвалтам насаджана нашым продкам. Тэндэнцыйна і безразважліва трактуючы складаныя падзеі царкоўнай гісторыі нашай Бацькаўшчыны, навешваючы ярлыкі, аўтары фільму небясьпечна гуляюць з рэлігійнымі пачуцьцямі вернікаў, ствараюць глебу для парушэньня рэлігійнага міру ў краіне, настройваючы супраць грэка-каталікоў нашых праваслаўных братоў. [...]

Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь гарантуе пашану рэлігійных перакананьняў вернікаў усіх канфесіяў. А ў Законе аб свабодзе сумленьня і рэлігійных арганізацыях адзначана духоўная, культурная і гістарычная роля Катаіцкай Царквы (неад’емнай часткай якой ёсьць Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква) на тэрыторыі Беларусі. І мы бачым імкненьне прадстаўнікоў дзяржаўных уладаў дзейнічаць у дачыненьні да нашай канфесіі ўласна ў такім накірунку. Важны ўклад у гісторыка-культурную і духоўную спадчыну Беларусі Грэка-Каталіцкай Царквы быў адзначаны ў лісьце, які накіраваў Камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасьцяў пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь 12 ліпеня 2006 году з нагоды 15-годдзя аднаўленьня яе душпастырскай дзейнасьці ў Беларусі: "Гісторыя Беларусі шчыльна зьвязана з дзейнасьцю вядомых уніяцкіх дзеячаў, якія спрычыніліся да разьвіцьця духоўнасьці і культуры, садзейнічалі фармаваньню лепшых традыцыяў адукацыі і асьветы".

Гісторыкі могуць спрачацца пра неабходнасьць Уніі і яе наступствы, але для ўсіх відавочны яе немалыя плады: усьплеск духоўнага і інтэлектуальнага жыцьця ў краіне, пашырэньне асьветы і кнігадрукаваньня ўніяцкім базыльянскім ордэнам, увядзеньне беларускай мовы ў навучаньне вернікаў і душпастырства, стварэньне адметнай іканапіснай школы, узьвядзеньне сьвятыняў, якія сталі шэдэўрамі беларускай архітэктуры і інш.

Спадзяемся, кіраўніцтва Першага нацыянальнага каналу тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь і прадстаўнікі дзяржаўных уладаў зразумеюць нашую занепакоенасьць і дадуць належную ацэнку падобным тэндэнцыйным і небясьпечным з пункту гледжаньня захаваньня рэлігійнага міру ў краіне фільмам".

Выказаныя ў калектыўных зваротах грэка-каталіцкіх вернікаў заўвагі былі разгледжаныя і па ўзьнятых пытаньнях атрыманыя афіцыйныя адказы. У лісьце № 05-12/55 ад 14 ліпеня 2008 году Намесьнік Упаўнаважанага па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь сп. У.Ламека паведаміў вернікам парафіяў у Горадні і Берасьці, што на адрас "Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі накіраваны ліст з просьбай улічваць неабходнасьць павагі рэлігійных пачуцьцяў вернікаў пры падрыхтоўцы радыё- і тэлепраграмаў", а адказ на зварот дасьць дзяржтэлерадыёкампанія.

Намесьнік Старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь сп. А.Бінецкі 21 ліпеня 2008 году (ліст № 02-13/Г-486, Г-473) паінфармаваў грэка-католікаў пра тое, што іх калектыўныя звароты, у тым ліку і ліст з Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь, разгледжаныя. У адказе паведамляецца, што фільм, які выклікаў такую рэакцыю вернікаў, уваходзіць у цыкл з 13 дакументальных фільмаў пад агульнай назвай "Летапіс часоў" і створаны ён на замову Белтэлерадыёкампаніі таварыствам з абмежаванай адказнасьцю "Мастер-Фильм", а аўтарам ідэі і сцэнару зьяўляецца кандыдат гістарычных навук Вадзім Гігін, рэжысёр – Людміла Сьнегірова. (Дарэчы, нельга не адзначыць, што сп. В.Гігін – рэдактар часопісу "Беларуская думка"...) Спасылаючыся на законы аб СМІ і аб аўтарскім праве, прадстаўнік дзяржтэлерадыёкампаніі сп. А.Бінецкі заўважыў, што "матэрыялы дакументальных фільмаў зьяўляюцца аўтарскімі матэрыяламі і не падлягаюць рэдагаваньню з боку Белтэлерадыёкампаніі".

Безумоўна, трэба пагадзіцца з правам аўтараў ствараць фільмы такія, якія яны хочуць, аднак ці ня варта было кіраўніцтву Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь усё ж проста зусім адмовіцца ад паказу такіх тэндэнцыйных фільмаў, якія абражаюць рэлігійныя пачуцьці вернікаў абедзьвюх каталіцкіх канфесіяў краіны, тым больш у час візіту ў Беларусь высокага госьця з Ватыкану?

Тым ня менш, няма сумневу, вернікі, якія паставілі свае подпісы ў калектыўных зваротах да кіраўніцтва Белтэлерадыёкампаніі, паверацьу у шчырасьць і прымуць пад увагу словы, выказаныя ў афіцыйным лісьце намесьніка Старшыні сп. А.Бінецкага: "Прыносім свае прабачэньні за выказваньні аўтара праграм "Летапіс часоў", якія неадназначна трактуюць гістарычныя падзеі і працэсы, зьвязаныя з дзейнасьцю грэка-каталіцкай царквы ў Беларусі, і ўлічым Вашыя заўвагі ў далейшай працы".

**Ігар Бараноўскі**

Царква і грамадзтва

## "Грамадзянскі шлюб" – любоў ці самалюбства?

**Паняцьце "грамадзянскі шлюб" за апошнія гады трывала ўвайшло ў нашае жыцьцё. На экранах тэлевізараў, старонках газет, у прыватных размовах мы ўвесь час сутыкаемся з "грамадзянскімі жонкамі" і "грамадзянскімі мужамі". Грамадзянскім шлюбам сёньня прынята называць адносіны, якія не былі ўзаконеныя – ні Царквой, ні ва ўстановах ЗАГСу. Ці такія адносіы сапраўды можна назваць шлюбам? Ці назва "грамадзянскі шлюб" адпавядае такой форме адносінаў? Як Царква ставіцца да так званых "грамадзянскіх шлюбаў"?**

Паняцьце "грамадзянскі шлюб" зьявілася ўпершыню ў XVII стагоддзі ў Галандыі, калі нарачоныя, якія належалі да розных канфесіяў, бралі шлюб не ў царкве, а ў грамадзянскіх установах. Яшчэ нядаўна, у часы панаваньня камуністычнага рэжыму і атэізму, у Беларусі большасьць шлюбаў была грамадзянскімі, у апошнія ж часы стала звычайным разам з грамадзянскай "росьпісьсю" браць шлюб у царкве. Такім чынам, тое, што сёньня ў нас называецца "грамадзянскім шлюбам", не адпавядае гэтаму паняцьцю і зьяўляецца па сутнасьці звычайным сужыцельствам.

Неабходным элементам шлюбу ў каталіцкім разуменьні ёсьць згода сужонкаў. "Калі няма згоды, няма і шлюбу",– гаворыць Катэхізіс Каталіцкай Царквы (1626). У лацінскай традыцыі служыцелямі шлюбу зьяўляюцца самі сужонкі, а сьвятар альбо дыякан толькі асістуе ім пры гэтай тайне. Паводле ўсходняй традыцыі служыцелем шлюбу зьяўляецца сьвятар альбо біскуп, які, атрымаўшы згоду нарачоных, вянчае кожнага з іх (ККЦ, 1623). Аднак ёсьць выключныя выпадкі, калі таямніцу шлюбу можна зьдзейсьніць і без сьвятара, а толькі ў прысутнасьці двух сьведкаў (Кодэкс канонаў Усходніх Цэркваў, канон 832).

Гэта яшчэ не азначае, што "грамадзянскі шлюб" можна прыраўнаць да царкоўнага на той падставе, што мужчына і жанчына, прыняўшы рашэньне жыць разам, самі ствараюць яго. Згода ў грамадзянскім і царкоўным шлюбе – гэта зусім іншыя паняцьці. Як правіла "грамадзянскі шлюб" сужыцелі разглядаюць як часовую форму адносінаў. Такая "згода" ніякім чынам не адпавядае хрысьціянскаму разуменьню сужонскай згоды. "Згода сужонкаў – гэта акт волі, на падставе якога мужчына і жанчына праз неразрыўны саюз узаемна сябе аддаюць і прымаюць адзін аднаго для стварэньня шлюбу",– чытаем у Кодэксе канонаў Усходніх Цэркваў (канон 817). Такім чынам, сужонская згода – гэта ня проста рашэньне пэўны час пажыць разам і паспрабаваць весьці агульную гаспадарку, а гатоўнасьць прыняць іншую асобу з яе звычкамі, недахопамі, а таксама аддаваць сябе – свой час, сілы, звычкі, каб зрабіць іншага шчасьлівым. І яшчэ адзін важны элемент шлюбнай згоды – гэты саюз будзе неразрыўным, а значыць, нішто не разьдзеліць сужонкаў. Сужыцельства ў "грамадзянскім шлюбе" зьяўляецца поўным адмаўленьнем ад такога разуменьня шлюбу – чалавек, які стварае "грамадзянскую сям'ю", пакідае для сябе свабоду пакінуць іншага чалавека, калі ўзьнікнуць цяжкасьці ў сумесным жыцьці.

Часта "грамадзянскі шлюб" успрымаецца як пэўная форма падрыхтоўкі да шлюбу, ён мае перарасьці ў трывалы (гэта значыць павянчацца альбо "расьпісацца" ў ЗАГСе). У хрысьціянстве спрадвеку існаваў перыяд падрыхтоўкі да шлюбу – заручыны, пазьней яны сталіся часткаю абраду вянчаньня. Сёньня ўсё больш маладых людзей з царкоўных колаў вяртаецца да старажытнай практыкі. Аднак хрысьціянскія заручыны – гэта зусім іншая падрыхтоўка, чым "грамадзянскі шлюб". Заручаныя не жывуць разам, паміж імі ня можа быць сэксуальнага жыцьця. Яны толькі дэкларуюць свой намер стварыць сям'ю. У "грамадзянскім шлюбе" сям'я фактычна ствараецца, а пазьней "узаконьваецца". Па-рознаму ўспрымаюць "грамадзянскі шлюб" жанчыны і мужчыны. Калі для першых гэта сапраўды чаканьне шлюбу і больш сталых адносінаў, то для другіх – толькі часовая зьява, якая не абавязкова перарасьце ў сям'ю. У Гарадзенскай вобласці 92 % жанчынаў, якія жывуць у "грамадзянскім шлюбе", лічаць сябе замужам, а 85% мужчынаў – вольнымі.

Вядома, немагчыма пазнаць чалавека цалкам, не пражыўшы з ім пэўны час сумесна. І тут прыхільнікі "грамадзянскіх шлюбаў" маюць рацыю. Аднак розьніца паміж хрысьціянскім і "грамадзянскім" разуменьнем гэтага пазнаваньня істотная. "Адам пазнаў Еву, жонку сваю" (Быц 4, 1) – для таго, каб пазнаць жанчыну, неабходна, каб яна сталася жонкаю. Бо біблійнае пазнаньне – гэта ня толькі павярхоўнае знаёмства, гэта пазнаньне ўсёй глыбіні чалавечай асобы, для якога патрэбна ўсё чалавечае жыцьцё. Гэта таксама адкрыцьцё сябе на іншую асобу, на тое, каб быць пазнаным. Словам "пазнаньне", якое выкарыстоўваецца ў гэтым месцы, Сьвятое Пісаньне называе таксама адносіны чалавека з Богам. Як і адносіны з Богам, сужонскія адносіны патрабуюць вернасьці, пастаянства і не могуць датычыць толькі "часткі" чалавека – яны патрабуюць усёй чалавечай асобы і назаўсёды.

Ці зьяўляецца шлюб выразам каханьня? Царква гаворыць – так! Адказ гэты вынікае з хрысьціянскага разуменьня каханьня і любові ўвогуле. "Любоў доўгацярплівая, любоў ласкавая, не зайздросьціць, не бывае ганарыстай, не надзімаецца, не амбітная, не шукае таго, што сваё, не злуецца, ня думае благога, ня цешыцца з несправядлівасьці, але радуецца праўдзе, усё пераносіць, ва ўсё верыць, на ўсё спадзяецца, усё церпіць. Любоў ніколі не зьнікае" (1 Кар 13, 4-8). Толькі з тым, каго кахаеш па-сапраўднаму, магчыма зьвязаць сваё жыцьцё назаўсёды. Яго можна цярпець, для яго можна ахвяравацца, не шукаючы свайго. Любові патрэбны прынамсі "штамп у пашпарце", і гэта ня проста фармальнасьць. Гэта пацьверджаньне таго, што другая асоба для мяне ня рэч, якую я ўжываю толькі тады, калі яна мне зручная, але сапраўды асоба чалавека, якой я аддаю сваё жыцьцё.

**а. Андрэй Крот**

Наша вера

Мае ўражаньні ад полацкай пілігрымкі-2008



*Не сумуйце, дзецюкі, начамі,*
*Ужо ня ўдасца спужаць вольны дух!*
*Мы былі і будзем крывічамі*
*Ад хваль Угры – аж па сіні Буг!*

Ларыса ГЕНІЮШ

Слава Хрысту!

Хачу падзяліцца сваімі ўражаньнямі ад Пілігрымкі-2008 Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы з Віцебску ў Полацак. Мы, берасьцейскія ўніяты з Берасьця, Бярозы і Ляхавічаў, паехалі на чарговае выпрабаваньне душы і цела – у пілігрымку ў гонар пяці пакутнікаў манахаў-базыльянаў з Полацку.

Спадарыня Алена Панасевіч з Берасьця разам з малымі сынамі-пагодкамі Юрасём і Стасем рашуча заявіла: мы пройдзем увесь шлях! Хвала адважным! Мае ж планы былі больш сьціплыя. Думаю, пагляджу дзень, другі, што гэта такое і зьеду. Былі справы ды ня тое ўжо і здароўе.

Але рэальнае знаёмства з жыцьцём пілігрымаў мяне ўразіла і ўсхвалявала. Пабачыўшы, з якім імпэтам маленькія дзеткі крочылі па шляху пілігрымкі, мне стала сорамна за мае грэшныя думкі, і я рашыў: "Застаюся і ўбачу купалы сьв. Сафіі!"

На другі дзень выявіліся мае хібы ў падрыхтоўцы да пілігрымкі. Але сярод удзельнікаў пілігрымкі вітаў такі Божы дух любові, падтрымкі і павагі, што ўсялякія цяжкасьці вырашаліся хутка і з надзеяй, што ўсё будзе добра. Зладжана і мужна працавалі і служылі сьвятары і семінарысты. А калі, прайшоўшы ладны кавалак дарогі, мы бачылі на гарызонце сястру Вікторыю, нястомную працаўніцу, руплівую і рухавую гаспадыню нашай пілігрымкі, усе з палёгкай уздыхалі: "Будзе хлеб і да хлеба!"

І вось прайшлі ўжо трэці дзень сваёй дарогі, крочым чацьвёрты. Цяжка ўсім... І ў гэты нялёгкі момант пілігрымкі кожнаму пілігрыму, і мне асабіста была аказана такая патрэбная дапамога. Матушка Людміла і абутак мне знайшла памяняць, і крывавыя мазалі на падэшвах ног маіх перавязала. Вялікі Вам дзякуй, спадарыня Людміла, "Многія леты!"

Штогадовая пілігрымка Віцебск-Полацак праводзіцца пад пільным вокам і апекаю Апостальскага Візітатара для грэка-католікаў Беларусі Архімандрыта Сяргея Гаека, які праз свае казаньні на Боскіх Літургіях надаваў сілу і веру, каб прайсьці шлях пілігрымкі.

І вось паказаліся ўжо залатыя купалы сьвятой Сафіі... Старажытны Полацак... Беларускі грэка-каталіцкі манастыр і... лазьня. Шлях пілігрымаў завершаны. І як усялякую справу, так і мы завяршаем наш паломніцкі шлях кароткай, але зьмястоўнай малітвай:

*Дзякуй Табе, Божа!*
*Дзякуй у кожны час!*
*Дзякуй Табе, Божа!*
*За ўсё, чым дорыш нас!*

Вечная слава Ісусу Хрысту!

**Уладзімір Сямашка,**
*г. Берасьце*
*P.S.: Ногі мае ўжо хутка сталі здаровыя, а таму кажу:* "*Бывай, пілігрымка-2008, і да сустрэчы, пілігрымы!*"

Наша вера

Пасланьне Найдастойнага Апостальскага Нунцыя ў Беларусі
на завяршэньне XIV штогадовай Пілігрымкі грэка-католікаў

*Полацак, 13 ліпеня 2008 г.*



*Дастойны Апостальскі Візітатар*
*для грэка-каталікаў Беларусі!*
*Пачэсныя Сьвятары, Манахі, Манахіні!*
*Дарагія Браты і Сёстры!*

**1.** Любоў Хрыста заахвочвае мяне, каб на завяршэньне вашай штогадовай Пілігрымкі з гораду Віцебск у горад Полацак зьвярнуцца да вас і каб клікаць на ўсіх багацьце "ласкі і супакою ад Бога, Айца нашага, і Госпада Ісуса Хрыста" (пар. Рым 1,7).

Тая ж самая любоў Хрыста заахвочвала ў гэтыя дні таксама кожнага з вас, каб з вераю, надзеяй і любоўю працягваць шлях евангельскага сьведчаньня ўздоўж дарог узьлюбленай Беларускай Зямлі ды каб разважаць над дзеяньнем Бога, Які "хоча збавіць усіх людзей і давесьці іх да пазнаньня праўды" (1 Цім 2, 4). З гэтай прычыны як дэвіз вашай пілігрымкі ў гэтым годзе і як тэму вашых разважаньняў падчас дарогі вы выбралі словы Апостала народаў – сьвятога Паўла, якія ён напісаў да хрысьціянскай супольнасьці Карынта "Любоў Хрыста заахвочвае нас" – "Caritas Christi urget nos" (2 Кар 5, 14).

Заахвочвае нас любоў Хрыста, Які, палюбіўшы сваіх, да канца іх палюбіў (пар. Ян 13, 1).



**2.** У час вашай пілігрымкі і вашых разважаньняў вы хацелі, каб вашая любоў ператварылася ў малітву ня толькі за саміх сябе і за вашую царкоўную Супольнасьць, рассеяную па ўсіх частках гэтай прыгожай Краіны, але ў малітву за ўсю Каталіцкую Царкву, якой кіруе Наступнік сьвятога Пятра, ды за ўсіх жыхароў улюбёнай Беларусі. Сапраўды, любоў Хрыста заахвочвае нас у кожны момант нашага існаваньня і, такім чынам, таксама сёньня, сабраныя ля царквы сьвятой Параскевы ў старажытным горадзе Полацку, вы моліцеся паводле словаў Літургіі сьвятога Яна Залатавуснага:

*- за супакой з вышыняў і збаўленьне душ нашых,*
*- за супакой на ўсім сьвеце, добры стан сьвятых Божых Цэркваў і зьяднаньне ўсіх.*

(Літанія "мірная")

Далучаюся да гэтай вашай малітвы ды разам з вамі, карыстаючыся словамі, якімі завяршаецца Боская Літургія, дадаю:

*Госпадзе, які бласлаўляеш тых,*
*што бласлаўляюць Цябе, і асьвячаеш*
*тых, што ўскладаюць на Цябе надзею,*
*збаў людзей Тваіх*
*і блаславі набытак Твой;*
*захавай у цэласьці Царкву Тваю.*
*(Заамбонная малітва)*

**3.** Калі сёньня служыце Боскую Літургію, уся вашая царкоўная Супольнасьць пачэснай і вялікай візантыйскай традыцыі, у поўнай сімфоніі з даручэньнем, якое Хрыстос даў Апосталам перад узьнясеньнем на неба, жыве і выяўляе глыбокае і шчырае жаданьне кожнага хрысьціянскага сэрца: быць у сьвеце нястомнымі сьведкамі Ісуса Хрыста ў моцы Духа Сьвятога (пар. Дз 1, 8).

Гэта хацеў нагадаць вам таксама Найдастойны Кардынал Тарчызіё Бэртонэ, Дзяржаўны Сакратар Яго Сьвятасьці, калі амаль месяц таму, 19 чэрвеня, сказаў вам: "Вы зьяўляецеся спадкаемцамі старажытнай традыцыі, літургічнай і кананічнай, якая мае поўную годнасьць у сьвятой Божай Царкве". Гэта ёсьць спадчына, якая забавязвае і ад кожнага ды ад усёй царкоўнай Супольнасьці вымагае адказу на любоў Хрыста.

**4.** Калі пішу гэтыя радкі, запэўніваю малітоўную блізкасьць і Блаславеньне Сьвятога Айца Бенядыкта XVI кожнаму з вас ды вашай царкоўнай Супольнасьці.

Адначасова складаю вам сьведчаньне маёй братэрскай любові і кожнага з вас сардэчна вітаю ў Хрысьце Ісусе, нашай надзеі (1 Цім 1, 1), даручаючы вас "Богу ды слову ласкі Яго, якое мае магутнасьць збудаваць ды даць спадчыну з усімі сьвятымі" (Дз 20, 32).

Няхай кожны з вас зможа даць гатовы ды поўны адказ на любоў Хрыста, што заахвочвае нас.

Менск, 13 ліпеня 2008 г.

**+ Марцін Відавіч**
**Тытулярны Архібіскуп Ніна**
**Апостальскі Нунцый у Беларусі**

Гасьцёўня

"Калі Госпад мяне сюды паклікаў,
то навошта цягнуць час і шукаць штосьці яшчэ?!"

**Часам у кніжках пішуць прадмовы, каб палегчыць чытачу ўсьведамленьне напісанага. І так, кароткае тлумачэньне таго, што будзе далей. 17 жніўня 2008 году наш брат-рэдэмптарыст, які паходзіць з грэка-каталіцкай парафіі сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя ў Берасьці, добра вядомы нам як брат Апалінар (Алесь Нікалаеў), запрасіў сваіх землякоў у Львоў на выключна важны дзень у ягоным жыцьці – складаньне вечных манаскіх зарокаў, г. зн. на гэтакі шлюб з Госпадам. Адзін раз на жыцьцё бывае...**



На шлюб прынята прыходзіць з падарункамі. Першым падарункам нашаму брату ў гэты памятны дзень стаў прыезд шматлікіх землякоў-беларусаў з розных грэка-каталіцкіх парафіяў – амаль два дзясяткі вернікаў з роднага Берасьця разам з бацькамі і парахам а. Ігарам Кандрацьевым, а таксама грэка-католікі з Пінску, Менску і Івацэвічаў ды ераманах Лявонці (Тумоўскі) з Полацку. Але быў яшчэ і адмысловы падарунак – ад нашай музычнай групы супольнасьці "Маран ата" – чатыры кампазіцыі (у цэлай музычнай праграме-віншаваньні), у якіх душа абіраецца вечным шлюбам з Госпадам.

У гэтым артыкуле зьмешчаныя фрагменты нашай размовы з братам Антонам (Нікалаевым), які заручыўся з Госпадам, і

ўрыўкі з музычнай праграмы, якой мы віншавалі яго і яшчэ чатырох ягоных украінскіх братоў-манахаў, а таксама некаторыя разважаньні аўтара.

**НОВАЕ ІМЯ. НОВАЕ ЖЫЦЬЦЁ!**

*Алесь, Апалінар... Якое імя прамаўляе Госпад, калі зьвяртаецца да нас?! Як Госпад зьвяртаецца да нас?! Як ён кліча цябе?! Як раскрываецца твая сутнасьць у абсалютнай Любові? Хто ты насамрэч?! Хто ты?!*

**Вераніка Тарасюк: Слава Ісусу Хрысту! Мы ўжо зьвяртаемся да цябе "брат Антон". Гэта тваё трэцяе імя – як так сталася ў жыцьці? Чаму менавіта Антон?**



**Брат Антон (Нікалаеў):** Слава на векі! Падчас хросту айцец Ігар хрысьціў мяне імем Аляксандар (гэтае імя я атрымаў ад маіх бацькоў) і Апалінар (імя, сьвятога паводле царкоўнага календара ў гэты дзень). З таго часу 8 гадоў мяне называлі брат Апалінар.

Калі зараз складаў схіму (схіма – вобраз, прыняцьце манаскага вобразу), зьмяніў і імя. Ва ўсіх усходніх традыцыях схіма – гэта прыняцьце новага жыцьця. Сьвятыя айцы разумелі яе як другі хрост. Ва ўсходніх манахаў звычайна імя для таго, хто складае схіму, выбірае настаяцель. У мяне была нагода выбраць самому. Я выбраў імя Антон – у гонар нашага беларускага грэка-каталіцкага экзарха-мучаніка Антона Неманцэвіча. Я ведаю яго жыцьцё, люблю яго постаць, мне блізкая яго духоўнасьць. Каб адлюстраваць сувязь першага хросту з другім, можна браць імя на адну і тую ж літару.

*Ніводны пэндзаль і ніякае натхненьне*
*ня здольныя стварыць такі абраз –*
*жывы, цудоўны, поўны падабенства,*
*які малюе ўва Мне любоў твая...*

**ПАКЛІКАНЬНЕ**

*Госпад кліча... А да чаго?! У чым тваё пакліканьне і найгалоўнейшае прызначэньне ў жыцьці?! Ці можаш ты застацца верным абранай некалі прафесіі ўсё жыцьцё?! Гэта таксама выкананьне Божай волі. І наадварот, ці гатовы ты да таго, каб кінуць усё і распачаць новае жыцьцё "з нуля"?! Ці гатовы ты пачуць голас Госпада і ці гатовы ты трымаць адказ перад Ім?! Ці гатовы ты быць хрысьціянінам?!*

**Вераніка Тарасюк: Думаю наступнае пытаньне вельмі чаканае. Калі ты адчуў пакліканьне да манаскага жыцьця?**



**Брат Антон (Нікалаеў):** Спачатку адчуў пакліканьне да сьвятарства. Гэта было прыблізна праз паўгоду пасьля хросту, я тады вучыўся на 2 курсе эканамічнага факультэту. Раптам зразумеў, што не туды патрапіў, што мне гэта не патрэбна. Прыйшло жаданьне служыць бліжнім праз сьвятарскае служэньне. Летам правёў адзін месяц у манастыры рэдэмптарыстаў. Спадабалася іх духоўнасьць, жыцьцё ў манаскай супольнасьці. Ужо не хацеў шукаць штосьці іншае. Калі Госпад мяне сюды паклікаў, то навошта цягнуць час, шукаць штосьці яшчэ? Атрымаў блаславеньне ад а. Ігара (Кандрацьева) у любы час пайсьці ў манастыр. У верасьні забраў дакументы з універсітэту і паступіў да манастыра айцоў-рэдэмптарыстаў.

**Вераніка Тарасюк: У сьвеце рознае стаўленьне да манаства. На тваю думку, гэта трагічны ці радасны выбар?**

**Брат Антон (Нікалаеў):** "Вось дзень, што Госпад стварыў, будзем радавацца і весяліцца ў ім" (Пс 117, 24). Для мяне гэта паўната ўсяго, да чаго я ішоў 7 гадоў. Праўда, калі я толькі паступіў у манастыр, ужо быў гатовы скласьці вечныя зарокі. Але цяпер разумею, што на ўсё ёсьць свой час. Духоўна карысныя былі гэтыя 7 гадоў – дзеля выхаваньня, дзеля будаваньня моцнай веры...

**Вераніка Тарасюк: На сьв. Літургіі, калі ты разам з іншымі братамі складаў вечныя зарокі, сьвятар казаў, што пакліканьні бываюць розныя: напрыклад, пакліканьне да пэўнай прафесіі праяўляецца ў тым, што чалавек гатовы ўсё жыцьцё займацца адной справай. Скажы, у чым духоўны сэнс манаскага пакліканьня?**

**Брат Антон (Нікалаеў):** Пачуць голас Бога. Адчуць у сэрцы тое, што табе вельмі падабаецца, да чаго маеш схільнасьць. Тое, чаму гатовы прысьвяціць увесь свой час. Але могуць прыходзіць розныя сумненьні. Тады трэба вытрывала прасіць у Бога адказу, разуменьня. І ён абавязкова прыходзіць: праз унутранае пераканаsuccessfully ньне, праз Сьвятое Пісьмо, праз слова брата ці духоўнага настаўніка. Трэба проста набрацца мужнасьці і ісьці за сваім пакліканьнем, не палохаючыся цяжкасьцяў...

*Тваёй любові Я цяпер даю заданьне:*
*Чуваць і чуйнай быць, Мой кожны заклік чуць,*
*Каб ты Маім улюбёным памяшканьнем*
*Была заўсёды, бо ў табе Я жыць хачу...*

**ЛЮБОЎЮ ЖЫЦЬ...**

Госпад да кожнага зьвяртаецца ў розны спосаб. І Божыя намеры і заданьні адносна кожнага з нас таксама розныя. Але два найгалоўнейшыя прыказаньні пакінуў нам Госпад – любіць Яго і любіць адзін аднаго. Наша любоў праяўляецца ў імкненьні да еднасьці – з Богам і з іншымі людзьмі, у жаданьні аддана служыць ім. Таму нельга быць хрысьціянінам па-за Яго Царквой і ня можа быць сапраўдным хрысьціянінам той, хто ня мае любові, хто ня хоча палюбіць бліжняга...

*Бог ёсьць любоўю, Бог ёсьць любоўю!*
*І той, хто любіць, той у Богу ёсьць!*
*Разам з табою, будзем у любові*
*Любіць праз усё жыцьцё...*

**Вераніка Тарасюк: Падчас Боскай Літургіі, на парозе новага жыцьця, вы, пяцёра братоў, леглі крыжам перад Госпадам і паклалі рукі на плечы адзін аднаго. Было адчуваньне, што адносіны паміж братамі ў гэты момант становяцца іншымі, набываюць містычнае адценьне. Што азначае для цябе дух братэрства?**

**Брат Антон (Нікалаеў):** Для мяне, перш за ўсё, гэта азначае паслужыць брату, калі ён патрабуе дапамогі. Служэньне заўсёды каштуе пэўных намаганьняў. Каб паслужыць брату, трэба адрачыся ад сваіх планаў, патраціць асабісты час. Але праз такія крокі самаадрачэньня будуецца дух братэрства, які потым становіцца дабрадзейнасьцю – пастаяннай

унутранай гатоўнасьцю служыць іншым людзям, не думаючы пра сябе...

*Як агонь на ахвярнік – хай зыйдзе Любоў,*
*Дабрачынствы, правіны і мары – усё спаліць,*
*Як агонь – ператворыць мяне ў вобраз Свой*
*І бясконца нязгасным агнём палае!*

**P.S.:** Калі ёсьць прадмова, то няхай будзе і эпілог. Замест эпілогу — асабістае ўражаньне. Вось глядзіш на Божых абраньнікаў, што не на словах, а на справе адракліся сябе і прысьвяцілі ўсё жыцьцё Госпаду, і думаеш: нехта ж можа рэалізаваць дадзенае яму Госпадам жыцьцё "на поўную"! А тут, найчасьцей, пражываеш дзень, быццам ён і не патрэбны нікому. Гэты дзень Госпад стварыў!

Калі хочаш ЖЫЦЬ, то ЖЫВІ Ў ЛЮБОВІ! Гэта і ёсьць сапраўднае жыцьцё. Гэта проста жыцьцё... Тваё жыцьцё!...

**Вераніка Тарасюк**
*г.Берасьце*

**На фота:**

1. Беларускі манах-рэдэмптарыст брат Антон (Нікалаеў).

2-3. Львоў, 17.08.2008. Брат Антон (Алесь Нікалаеў) падчас урачыстага складаньня вечных манаскіх зарокаў у манахаў-рэдэмптарыстаў.

Пілігрым

"Багародзіца, Дзева, радуйся!"

**Згодна з традыцыяй напрыканцы жніўня каталікі з розных гарадоў і мястэчак Пінскай рыма-каталіцкай япархіі адпраўляюцца ў пешае паломніцтва ў невялікае палескае мястэчка Лагішын, да цудатворнай іконы Маці Божай – Каралевы Палесься. У апошнія гады ўдзел у гэтых урачыстасьцях пачалі браць таксама і грэка-каталікі Берасьцейшчыны. Вернікі з Берасьця, Пінску і Бярозы былі там і сёлета.**



**Д**зьве групы пілігрымаў, прайшоўшы за ча тыры дні каля 120 кіламетраў з Бярозы (праз Зьдзітава-Безьдзеж-Опаль-Моладава-Парэчча) і каля 150 – з Баранавічаў (праз Русінавічы-Ганцавічы-Бобрык і Пласкінь), пад вечар у чацьвер, 21 жніўня 2008 г., як два струмені ракі, зьліліся ў адзін шумны вясёлы паток перад Лагішынам і накіраваліся ў санктуарыюм Маці Божай – Апякункі Палесься. Сёлета гэты шлях пешкі адолелі больш за 350 вернікаў і яшчэ многія далучыліся да падзякі і ўшанаваньня Багародзіцы ў апошнія два дні ў самім Лагішыне. Пробашч лагішынскага касьцёлу айцец Тадэвуш Шэшка сардэчна прывітаў пілігрымаў, сярод якіх было вельмі шмат маладых твараў. А пасьля таго, як пілігрымаў разьмеркавалі на начлег па сем'ях мясцовых каталікоў, вернікі адправіліся рыхтавацца да ўрачыстай сьвятой Імшы і начнога чуваньня.

**А** 21-й гадзіне сьв. Імша, якую саслужылі амаль два дзясяткі сьвятароў (сярод якіх быў і грэка-каталіцкі сьвятар з Берасьця а. Ігар Кандрацьеў), распачала начное праслаўленьне нашага Госпада Ісуса Хрыста і Яго Маці Багародзіцы Марыі. Беларуская імша была надзвычай узьнёслай, радаснай і жыцьцясьцьвярджальнай, чаму вельмі паспрыяла дружная суладная малітва пілігрымаў, палымяныя сьпевы пад гітару (іх узначальвалі малады брат-кармяліт Павел Рудзьман і семінарыст Віталь Пазьняк), жывое ды цікавае казаньне кс. Уладзіміра Русака – віцэ-рэктара Пінскай духоўнай семінарыі. Затым пачаўся канцэрт-праслаўленьне.



**І**дэя арганізацыі ў санктуарыюме ў Лагішыне канцэрта хрысьціянскай песьні і праслаўленьня на завяршэньне пілігрымкі зьявілася ў яе арганізатараў яшчэ некалькі гадоў таму. Сёлета гэтая ідэя ўрэшце была рэалізаваная, дзякуючы намаганьням кс. Эдуарда Мігая з Маларыты, якому даручылі заняцца падрыхтоўкай і правядзеньнем гэтай часткі праграмы паломніцтва да Маці Божай – Каралевы Палесься.

"За тыя некалькі месяцаў, якія я працаваў у Берасьці,– гаворыць кс. Эдуард,– мне ўдалося пазнаёміцца з некалькімі хрысьціянскімі музычнымі групамі. Каб пакласьці пачатак цудоўнай, як мне здаецца, традыцыі правядзеньня канцэрту для пілігрымаў з розных парафіяў нашай япархіі ў санктуарыюме Маці Божай у Лагішыне, сёлета былі запрошаныя маладая група "Еднасьць" з парафіі Ўзвышэньня сьвятога Крыжа ў Берасьці і група праслаўленьня харызматычнай супольнасьці "Маран ата" пры берасьцейскай грэка-каталіцкай парафіі сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя. Маладыя дзяўчаты з "Еднасьці" выдатна прасьпявалі і правялі прэзентацыю свайго першага, нядаўна запісанага дыску, які складаецца з кранальных меладыйных твораў на беларускай і расейскай мовах. Браты з грэка-каталіцкай парафіі Пятра і Андрэя, якія заставілі паўкасьцёла барабанамі і іншай музычнай апаратурай, наладзіўшы свае гітары і гук, як толькі ўдарылі па клавішах і струнах – адразу, з першых акордаў, прымусілі паломнікаў узьняцца з лаваў і танцаваць, незважаючы на пройдзеныя кіламетры. Разам з сьпевакамі з "Маран аты", пляскаючы ў далоні, падпяваючы і танцуючы, моладзь шчыра і радасна праслаўляла Бога".

**А** як жа інакш можна праслаўляць нашага Госпада, калі мы самі так часта зьвяртаемся да нашай і Ягонай Маці – Заступніцы і Добрай Апякункі, Багародзіцы Марыі – у самай што ні ёсьць традыцыйнай і добра ўсім вядомай малітве такімі канкрэтнымі словамі: "Багародзіца, Дзева, радуйся!" Вось жа радавацца, а ня сумна пазяхаць і тужыць, з думкаю "калі ўсё гэта ўрэшце скончыцца" павінны і мы, калі праслаўляем у малітве Марыю і Яе Сына Ісуса. Бо – Яна "нарадзіла Збавіцеля душ нашых"! Ці гэтыя словы штосьці значаць для нас, ці ўслухоўваемся мы ў іх зьмест?! Ці, можа, проста аўтаматычна мы нудна паўтараем як заклінаньне, даўно завучаныя пустыя для нас словы?.. Чаму ня радуемся, калі чуем, што нарадзіўся наш Збавіцель? Ня верым , што Ён – нарадзіўся? Дык, ці ўрэшце, верым, што Ён збавіў нас?!



**А**дкрыцца і даверыцца Госпаду запрашалі ўсе прапанаваныя сьпевы. Канцэрт-праслаўленьне доўжыўся амаль дзьве гадзіны, але для ўдзельнікаў яны праляцелі зусім незаўважна. Закончыўся ён ужо пасьля апоўначы. Палымяныя і натхняльныя сьпевы з гучнай, дынамічнай ды рытмовай музыкай выдатна завершыў глыбокі і велічны, вельмі інтымны і кранальны старажытны габрэйскі сьпеў-малітва "Кадош", які, абняўшыся за плечы і стаўшы "ў шацёр", сьпявалі ўсе сьпевакі і музыкі з "Маран аты": "Сьвяты, сьвяты, сьвяты Госпад Бог Сабаот..." Словы гэтай малітвы часам ліліся ціхай, спакойнай ракой, то набіралі моц, як гучны звон, то зноў сьціхалі да ціхага шэпту ветру... У гэты час многія з тых, якія толькі што весела скакалі ў танцы, укленчылі ў шчырай падзячнай малітве Госпаду.

Як сьцьвярджае кс. Эдуард Мігай, "палымяная музыка і словы песьняў, якія так выдатна праслаўляюць нашага Стваральніка, пакінулі ў сэрцах многіх маладых людзей незабыўны сьлед". Ён выказаў таксама шчырую ўдзячнасьць усім удзельнікам і арганізатарам канцэрта-праслаўленьня і пілігрымкі, а "асаблівая падзяка – душпастыру парафіі

сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя а. Ігару Кандрацьеву за дапамогу ў падрыхтоўцы выдатнага музычнага праслаўленьня".

**Ігар Бараноўскі**

**На фота:**

1. Сьв. Імша на заканчэньне пілігрымкі ў Лагішын

2-3. Канцэрт-праслаўленьне ў лагішынскім санктуарыюме Маці Божай.

Шлях да Бога

Як агонь...



*"Божа мой! Блаславёная Тройца! Хачу любіць Цябе і каб Цябе любілі. Хачу працаваць на праслаўленьне Сьвятой Царквы, душы ратуючы, якія жывуць на зямлі, і вызваляючы тыя, што пакутуюць у чысцу. Я хачу ў дасканаласьці выканаць волю Тваю... Я хацела б суцешыць Цябе і зьмякчыць няўдзячнасьць злых людзей, і малю Цябе пазбавіць мяне ад свабоды быць непрыемнай Табе, і калі я калі-небудзь упаду па прычыне сваёй слабасьці, прагну, каб Твой Боскі Погляд ачысьціў маю душу, паглынаючы маю недасканаласьць, падобна агню, які пераўтварае ўсё ў самога сябе.*

*Я аддаю сябе як ахвяру цэлапаленьня Тваёй міласэрнай Любові і малю Цябе няспынна паглынаць мяне, перапаўняючы маю душу хваламі бясконцае пяшчоты, якая ёсьць у Табе, каб я зрабілася мучаніцай Тваёй Любові, о, Божа!.. І няхай ад гэтага мучаніцтва... я нарэшце памру. Няхай душа мая без прамаруджаньня кінецца ў абдымкі Тваёй Любові*".

(З малітвы сьв. Тэрэзы ад Дзіцятка Ісуса)

Год таму, чытаючы гэтую малітву сьвятой Тэрэзы ад Дзіцятка Ісуса (з Лізье) – малітву прысьвячэньня яе Божай Любові – я нечакана для сябе была зьдзіўлена, захоплена і ўражана сутнасьцю агню, гэтай непаўторнай і ні з чым не параўнальнай на зямлі стыхіі. Ніякая іншая стыхія гэтага ня можа – усё пераўтвараць у самую сябе! Гэта стала для мяне ня проста адкрыцьцём, а захапленьнем адкрыцьця, якое нібы маланка працяло ўсю маю сутнасьць. Любоў Божая ня можа ўвайсьці ў сэрца, калі яно перш ня будзе адданае агню Сьвятога Духа і пераменена ў Ягоную сутнасьць цалкам і бяз рэшты, як ахвяра цэлапаленьня. У мяне імгненна нарадзіліся мелодыя і словы песьні "Як агонь". Выконваецца яна ў такім дынамічным і рытмічным тэмпе, што гэта падобна агню, які разгараецца.

*Як агонь, які паліць усё вакол,*
*Як агонь усё бяз рэшты вакол паглынае,*
*Прыгажосьць ці агіду – ўсё роўна, што –*
*Ён у самога сябе цалкамператварае,*

*Як агонь, у маю душу ўвайдзі, Гасподзь!*
*Як агонь, яе бруд ці красу папалі Ты!*
*На далоні Твае пакладаю ўсё,*
*Як ахвяру для цэласпаленьня ў малітве.*

*Як агонь на ахвярнік – хай зыйдзе Любоў,*
*Дабрачынствы, правіны і мары – усё спаліць,*
*Як агонь, ператворыць мяне ў вобраз Свой*
*І бясконца нязгасным агнём палае!*

Праз год (12-13 ліпеня 2008 г.) мы, берасьцейскія грэка-каталікі з супольнасьці "Маран ата" былі запрошаныя манахамі кармялітамі ў Гудагай пад Астраўцом на ўрачыстасьці з нагоды сьвяткаваньня ўгодкаў каранаваньня Гудагайскай іконы Божай Маці. І (о, шчасьце!) нам далі магчымасьць там ня толькі двойчы прасьпяваць Акафіст Багародзіцы, але яшчэ й выдзелілі 20 хвілінаў для выступу ў праграме праслаўленьня.

Тэмаю нашага выступу была Любоў, якая раскрывалася праз песьні, напісаныя на вершы кармяліцкіх сьвятых містыкаў – Малой Тэрэзы (з Лізье) і Вялікай Тэрэзы (з Авіля) ды праз сьвятыя тэксты Песьні Песьняў. Апошняй песьняй у час нашага выступу была тая самая – "Як агонь". Падчас яе выкананьня дождж ліў, як з вядра, усё поле перад сцэнаю было закрыта рознакаляровымі парасонікамі. Але вернікі ўсё адно стаялі, не сыходзілі: пэўна, слухалі...

Акрыленыя такім посьпехам, з гэтай жа праграмаю – "Любоў і ахвяра цэлапаленьня, як умова яе прыняцьця" – "Марана ата" езьдзіла 16-17 жніўня 2008 г. у Львоў, у манастыр рэдэмптарыстаў, дзе складаў вечныя зарокі берасьцейскі грэка-каталік, брат Апалінар Нікалаеў, а цяпер ужо брат Антон. Песьня "Як агонь" трапіла да свайго сапраўднага выканаўцы – брата Антона: яго палымянае сэрца, падобна як сэрца Малой Тэрэзы, адкрылася на Божую Любоў і аказался здольным усё пакласьці на ахвярнік гэтае Любові.

"Пакладзі мяне пячаткаю на сэрца тваё, як пячатку на руку тваю: бо моцная, як сьмерць, любоў; (...) жар яе – жар агню; яна – полымя вельмі моцнае. Вялікія воды ня могуць любоў пагасіць, і рэкі яе не зальюць. Калі б хто даваў усе багацьці дома свайго за любоў, ён адкінуты быў бы з пагардаю" (Песьня песьняў 8, 6-7).

**Вольга Граськова**
*г.Берасьце*

**На фота:** 12.07.2008. Фэст у м.Гудагай (Астравецкі р-н). Грэка-католікі з Берасьця сьпяваюць Акафіст да Багародзіцы.

Крыніцы духу

## 65-ая гадавіна сьмерці Экзарха Антона Неманцэвіча

**Сёлета мінула 65 гадоў ад мучаніцкай сьмерці 6 студзеня 1943 г. Экзарха Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, Апостальскага Адміністратара беларускіх грэка-католікаў а. Антона Неманцэвіча, SJ. На працягу мінулых месяцаў 2008 году сьвятары і супольнасьці вернікаў БГКЦ некалькі разоў адзначалі гэтую гадавіну, асабліва ў малітве на манаскіх могілках у Альбярціне (цяперашнім слонімскім прадмесьці), дзе служыў а. Антон, ды ў Менску – горадзе, дзе ён прыняў мучаніцкую сьмерць.**

Агульнацаркоўны малітоўны ўспамін 65-годдзя сьмерці Экзарха Антона Неманцэвіча меў месца ў апошні дзень XIV штогадовай пілігрымкі беларускіх грэка-католікаў – у суботу, 12 ліпеня 2008 году, у вёсцы Струньня каля Полацка, на месцы даўняй рэзідэнцыі ўніяцкіх мітрапалітаў. Апостальскі Візітатар БГКЦ Архімандрыт Сяргей (Гаек) узначаліў там Паніхіду і зачытаў тэкст свайго Памінальнага Слова (падрыхтаванага на падставе дасьледаваньняў а. Яўгена Ўсошына).

## ПАМІНАЛЬНАЕ СЛОВА
## Апостальскага Візітатара для грэка-католікаў Беларусі

*Малітоўны ўспамін Экзарха беларускіх грэка-католікаў,*
*Апостальскага Адміністратара Антона Неманцэвіча*

Струньня, субота, 12 ліпеня 2008 г.

Дарагія ў Госпадзе Браты і Сёстры!

Набліжаецца да завяршэньня XIV штогадовая пілігрымка беларускіх грэка-католікаў, падчас якой у гэтым годзе вы асэнсоўвалі тэму "Любоў Хрыста заахвочвае нас" (2 Кар 5,14). Тут, на беразе Дзьвіны, мы затрымаліся ля крыжа. Ля Крыжа Гасподняга, які заўсёды зьяўляецца знакам Ягонай любові.

Гэты крыж стаіць на месцы рэзідэнцыі ўніяцкіх мітрапалітаў. Тут, на гэтым памятным месцы, хочам маліцца і задумацца. У малітве Паніхіды ўзгадаем ярархаў, сьвятароў, манахаў, манахіняў ды сьвецкіх вернікаў Уніяцкай Царквы.

Ля крыжа Гасподняга ў малітве хочам узгадаць мучанікаў і пакутнікаў Беларускай Зямлі, ахвяраў ўсіх перасьледаў у гісторыі нашае Краіны.

Узгадваем Полацкіх Пакутнікаў 1705 г., узгадваем ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў, узгадваем ахвяраў нямецкай фашысцкай экстэрмінацыі.

На гэтым месцы, дзе жылі, маліліся і служылі ярархі Ўніяцкай Царквы, узгадваем сёньня асаблівым чынам Экзарха беларускіх грэка-католікаў, Апостальскага Адміністратара а. Антона Неманцэвіча, які адышоў да Госпада 6 студзеня 1943 году ў менскай турме СД.

Ён належаў да выдатных беларускіх царкоўных дзеячаў XX стагоддзя, якія стараліся наладзіць братэрскія адносіны з праваслаўнымі.

### 1. МУЧАНІЦКІ ПОДЗЬВІГ



Да нядаўняга часу існавала некалькі розных версіяў адносна прычыны, даты і месца сьмерці Экзарха Неманцэвіча. 24 жніўня 2004 г. навуковы рэферэнт Сакратарыяту Апостальскага Візітатара БГКЦ менскі гісторык Яўген Усошын адшукаў у Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь новы каштоўны дакумент пра дату сьмерці і пахаваньня Экзарха Антона Неманцэвіча[1]. Пры пошуку дакументу вельмі дапамагла кніга гарадзенскага дасьледчыка Э.С. Ярмусіка "Католический костел на Беларуси в годы второй мировой войны" (Гродно, 2002).

Адшуканы дакумент пра сьмерць і пахаваньне Экзарха А. Неманцэвіча трапіў у фонд 370 дакументаў Генеральнага камісарыяту Беларусі, у архіўную справу "Перапіска з акружнымі камісарыятамі і служыцелямі рэлігійнага культу пра ідэалагічнае выхаваньне мясцовага насельніцтва і па пытаньнях царквы" (ф. 370, воп. 1, спр. 2, арк. 5).

На дакуменце ёсьць рэгістрацыйны штамп канцылярыі Генеральнага камісарыяту з

пазначанай на ім датай – 21 студзеня 1943 году. Дакумент падпісаны оберштурмбанфюрэрам СС без расшыфроўкі яго прозьвішча. Можна думаць, што подпіс на дакуменце належыць Эдуарду Штраўху, бо менавіта ён быў камандзірам паліцыі бясьпекі і СД у Менску ў гэты час.

У згаданым дакуменце сьцьвярджаецца: "З меркаваньняў паліцыі бясьпекі Неманцэвіч мусіў быць пераведзены са Слоніма ў Мінск. 30.11.1942 г. ён захварэў на сыпны тыф. [...] Зважаючы на значэньне ягонай асобы, ён быў дастаўлены ў штаб-кватэру камандзіра паліцыі бясьпекі і СД Беларусі. Тут ён памёр 6.01.1943 г. ад сардэчна-сасудзістай недастатковасьці, якая наступіла пасьля сыпнога тыфу". Але а. Антон хварэў на тыф яшчэ ў дзяцінстве і меў імунітэт на яго, таму можна згадзіцца з а.Львом Гарошкам, які лічыць, што нямецкія нацысты проста спрабавалі схаваць такім чынам забойства (сярод катаваньняў) а. Антона як выдатнага душпастыра і высокага царкоўнага ярарха. У любым выпадку можна гаварыць пра ягонае мучаніцтва ex aerumnis carceris (вычарпаньне ў варунках турмы).

## 2. ПАКЛІКАНЬНЕ

Мучаніцкі подзьвіг беларускага Экзарха Антона Неманцэвіча быў вянцом і плёнам ягонай дзейснай веры ды руплівага пастырскага служэньня. Нарадзіўся ён далёка ад сваёй радзімы – у сталіцы Расейскае імперыі Санкт-Пецярбургу 8 лютага 1893 году. Ягоныя бацькі, Вікторыя і Ян, прыехалі туды з ваколіцаў Саколкі. Бацькі выхавалі яго добрым і ахвярным каталіком. Скончыўшы вядомую ў Пецярбурзе прыватную каталіцкую гімназію сьв. Кацярыны, малады юнак выбраў нялёгкую сьвятарскую дарогу. Пасьля заканчэньня ў 1915 годзе каталіцкай семінарыі ён адразу паступіў у мітрапалітальную Духоўную акадэмію, якая ў той час існавала ў Пецярбургу.

У тым самым годзе ён становіцца сябрам беларускага кола ў гэтай акадэміі. Большасьць чальцоў гэтага знакамітага кола сталася пазьней шчырымі рупліўцамі магутнага руху беларускага каталіцкага адраджэньня пачатку XX стагоддзя.

Але папрацаваць на карысьць Богу і народу на Бацькаўшчыне сьвятару давялося толькі з 1929 году. Перад гэтым а. Антон пасьпеў двойчы (у 1919 і 1921) пабываць у савецкім астрогу за "занадта актыўную рэлігійную дзейнасьць". Пасьля, па накіраваньні мітрапаліта Эдварда Ропа, выехаў на вучобу ў Рым у Папскі Ўсходні інстытут і вярнуўся ў Польшчу доктарам усходніх царкоўных навук.

Увосень 1929-га а. Антон вярнуўся на сваю Айчыну ў прыгарад Слоніма Альбярцін, дзе паступіў у навіцыят айцоў езуітаў усходняга абраду. Будучы ўжо 36-гадовым сьвятаром, з дастаткова багатым досьведам, два гады ён прабыў разам з маладымі калегамі ў навіцыяце, дзе вучыўся ў пакоры манаскаму жыцьцю.

## 3. "ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ"

Словы "Да злучэньня" можна лічыць своеасаблівым дэвізам айца Антона Неманцэвіча. Менавіта гэтыя два словы беларускі сьвятар зрабіў назваю рэдагаванага ім рэлігійнага часопіса, які ён пачаў выпускаць з 1932 году ў Альбярціне. Ён быў сапраўдным рыцарам прымірэньня і аб’яднаньня Цэркваў, людзей, беларускага народу. Яму балела разьяднанасьць Царквы Хрыстовае, а разам з царкоўнай і разьяднанасьць народная.

Айцец Антон лічыў, што еднасьць грамадзкая наступіць у беларусаў, калі яны будуць

адзіныя рэлігійна. Але ён не імкнуўся прывесьці кагосьці да гэтае жаданае еднасьці праз фізічны ці маральны прымус, бо глыбока паважаў годнасьць чалавека, а значыць, свабоду ягонай волі, права выбару, вернасьць уласнаму сумленьню.

Падставаю для еднасьці хрысьціянаў была для яго толькі супольная любоў. У штодзённых адносінах айцец Антон ажыцьцяўляў гэтыя свае прынцыпы. Не пакідаў ён і людзей, закінутых у цяжкія абставіны жыцьця падчас нямецкай акупацыі.

## 4. "СЛУЖЫЦЬ БОГУ, А НЕ ІМ ПАСЛУГОЎВАЦЦА"

Айцец Антон цураўся палітыкі. Ня знойдзем ніводнага ягонага выказваньня, якое можна было б трактаваць як палітычнае. Ад справы свайго жыцьця – еднасьці Цэркваў – ён чакаў толькі добрых пладоў для ўсяго беларускага народу. Жыцьцёвым прынцыпам а. Антона Неманцэвіча можна лічыць словы: "Наш абавязак адносна Бога – Яму служыць, а не Ім паслугоўвацца".[2]

Чужой для а. Антона была таксама нацыянальная абмежаванасьць. У першай палове дваццатых гадоў XX стагоддзя ён у маскоўскім касьцёле сьвятых Пятра і Паўла служыў польскай моладзі, якая ў тыя часы гуртавалася каля гэтага вогнішча рэлігійнасьці, і за гэта быў арыштаваны бальшавікамі. У другой палове трыццатых гадоў ён выязджаў для працы ва ўкраінскія парафіі на Валыні.

Найбольш блізкай, аднак, была для яго праца для беларусаў і па-беларуску. Акрамя беларускамоўнага часопіса "Да Злучэньня", айцец Антон закладаў рэлігійныя гурткі для дзетак-беларусаў, праца ў якіх праходзіла па-беларуску. Ужо як Экзарх (на пасаду экзарха для беларускіх грэка-католікаў ён быў прызначаны мітрапалітам Андрэем Шаптыцкім 17 верасьня 1940 г.) заснаваў "Апостальства малітвы за Беларусь".

Гэта паказвае, што а. Антон стараўся быць душпастырам і сьведкам Евангельля для ўсіх сваіх суайчыньнікаў, незалежна ад веравызнаньня.

## 5. "ЦАРКВА – НАШ ВОРАГ"

Асаблівае сьведчаньне вернасьці Евангельлю давялося скласьці Экзарху Антону падчас нямецкай акупацыі Беларусі. Ён актыўна працаваў тады як пастыр, пашыраючы навучаньне пра свой ідэал – зьяднаную Царкву. Яго неаднаразова папярэджвалі, каб быў ён больш абачлівы, бо ягоная актыўнасьць не падабаецца нямецкім акупацыйным уладам.

Добра вядома, што для нямецкіх нацысцкіх акупантаў Беларусі душпастырская руплівасьць каталіцкіх сьвятароў абодвух абрадаў, а, можа, нават у асаблівы спосаб сьвятароў грэка-каталіцкіх ("грэка-ўніяцкіх"), зьяўлялася небясьпечнай. Таму яны лічылі Каталіцкую Царкву сваім ворагам. Пакорлівы і руплівы сьведка Евангельля Экзарх Антон Неманцэвіч стаў "пагрозай" для магутнай, антычалавечай нацысцкай сістэмы.

* * *

Айцец Антон Неманцэвіч, Экзарх беларускіх грэка-католікаў, ва ўсім сваім жыцьці і служэньні стараўся быць пастырам і сьведкам Евангельля для ўсіх сваіх суайчынікаў, бяз розьніцы веравызнаньня ці палітычных поглядаў. Ягоным вялікім ідэалам была зьядналая Царква. Як тэолаг і душпастыр, цярпліва і нястомна стараўся ён будаваць братэрскія

адносіны з праваслаўнымі ў духу "пакорлівасьці і рэсьпекту для праваслаўнай Царквы". Замучаны ў менскай турме СД, ён быў пахаваны 9 студзеня 1943 г. на нямецкіх могілках у Менску сьвятаром мясцовай праваслаўнай Царквы.

**+ Архімандрыт СЯРГЕЙ (Гаек)**
**Апостальскі Візітатар**
**для грэка-католікаў Беларусі**

1. [Я. Усошын]. Новы дакумент пра лёс Экзарха Антона Неманцэвіча. "Царква", 2004, № 3, с. 3, 15.

2. Злучэнец. Наш адказ. "Да Злучэньня", 1932, № 3, с. 14.

**На фота:** Айцец Антон Неманцэвіч з дзецьмі ў Альбярціне (да 1939 г.?).

Гісторыя Царквы

**Г.Піхура (Гай дэ Пікарда)**

Царкоўная музыка на Беларусі

Уступ



Беларуская царкоўная музыка зьяўляецца часткаю вялікай усходне-славянскай літургічнай спадчыны, іншымі складовымі часткамі якой ёсьць музыка маскоўская і ўкраінская. Яна разьвілася ў Праваслаўнай і Ўсходне-Каталіцкай ("уніяцкай") Цэрквах гэтай краіны і ўжываецца ўсімі хрысьціянамі візантыйскага абраду.

Правілы і спосаб ужытку літургічных кнігаў на Беларусі ў асноўным ёсьць тыя самыя, што і ў Маскоўшчыне, і на Ўкраіне.

Што да практыкі царкоўнага сьпеву, дык тут трэба разрозьніць чатыры катэгорыі хораў:

а). Саборныя хоры: гэтыя хоры маюць звычайна 30 або больш сьпевакоў (Вільня, Смаленск, Пінск). Будучы першапачаткова галоўнымі асяродкамі беларускага царкоўнага мастацтва, яны пазьней сталіся цэнтрамі паліфанічнага (шматгалоснага) сьпеву ў заходнім стылі, а ў XIX ст. падпалі пад вельмі моцны маскоўскі ўплыў. Сёньня вельмі мала беларускага засталося ў вялікіх саборах краіны.

б). Хоры ў гарадзкіх цэрквах: нармальна складаюцца з 15-30 сьпевакоў (мужчын і жанчын), якія сьпяваюць на чатыры галасы (Менск, Наваградак, Беласток). Абмаскаленыя ў XIX ст., некаторыя з іх сталіся асяродкамі адраджэньня нацыянальнай музыкі ў першых гадох гэтага стагоддзя.

в). Вясковыя прыхадзкія хоры: рэдка маюць больш чым 15 сьпевакоў і часам ня маюць нават рэгента. Сьпевакі сьпяваюць за дзякам і ўжываюць толькі самыя простыя формы гарманізацыі. Праз гэтыя хоры прасачылася ў царкоўны абыход шмат народных элементаў (калядкі, кантычкі, паломніцкія песьні). Вясковыя хоры сёньня зьяўляюцца найбольш жывучымі крыніцамі нацыянальнага царкоўнага сьпеву.

г). Манастырскія хоры: першапачаткова прыхільнікі суровых традыцыйных формаў унісоннага (аднагалоснага) сьпеву, манастыры на Беларусі з часам увялі таксама паліфонію больш кансерватыўнага характару і пачалі падтрымліваць мясцовыя адмены царкоўных напеваў (Вільня, Супрасьль, Жыровіцы, Яблочын).

Такім чынам у царкоўным сьпеве трэба разрозьніць дзьве галоўныя адмены: унісон або аднагалосны сьпеў і паліфонію або шматгалосны сьпеў. Першая адмена, аднак, на жаль, вышла амаль зусім з ужытку.

Музычныя прылады, асабліва арганы, былі канчаткова адкінутыя Праваслаўнай Царквою, не бяз пэўных ваганьняў, у XVII ст., але званы ўжываюцца ўсюды і ў іх звоняць у пэўныя азначаныя хвіліны ў часе Службы Божае. Дзеля практычных меркаваньняў будзе выгадней разгледзець дзьве вялікія галіны царкоўнай музыкі – унісон і паліфонію – асобна.

Частка першая

## УНІСОН

### 1. Першапачатковы перыяд (990-1245).

"Першыя настаўнікі царкоўнага сьпеву прыйшлі... з Кіева, сталіцы Русі. Пасьля нейкага часу гэты сьпеў быў прынесены сьпевакамі з Кіева ў Ноўгарад Вялікі, а з Ноўгараду... ён распаўсюдзіўся праз доўгалетні ўжытак па ўсіх гарадах і манастырах Рускай япархіі".

Так пісаў у XVII ст. аб пачатках царкоўнай музыкі на Беларусі таленавіты беларускі царкоўны музыка Аляксандар Стэмаухаў-Мяжэнец.[1]

Ідучы ўгору па Дняпры, хрысьціянства, а з ім і царкоўны сьпеў, прышло ў Смаленск, а адсюль распаўсюдзілася на захад да Віцебска, Полацка, Менска і Горадні. Шырока адчыненая для розных уплываў з усіх бакоў, Беларусь сталася плодным полем дзеля разьвіцьця багатай спадчыны царкоўнай музыкі.

У 989 г. Полацкі князь Ізяслаў быў ахрышчаны місіянерамі, праўдападобна з Кіева, якія, згодна з даўно ўстаноўленым звычаем, будавалі цэрквы і арганізавалі хоры ў гарадох, якія яны, навярталі на хрысьціянства. Першыя місіянеры на Беларусі былі бяз сумліву Грэкі або славянамоўныя Баўгары. З сабою яны прывезьлі іконы і літургічныя кнігі і, з дапамогай мясцовых сьпевакоў, датарноўвалі візантыйскую літургію і напевы да мясцовых вымогаў. Грэцкая мова засталася ў ужытку на Беларусі аж да XVII стагоддзя; вялікія саборы часта мелі два хоры, якія ў перамежку, або часам і адначасова, сьпявалі па-грэцку і па-славянску.[2]

Вельмі мала пэўнага ведаем аб беларускай царкоўнай музыцы X-XIII ст. З адзінаццаці ўсходнеславянскіх музычных рукапісаў гэтага часу, якія дайшлі да нас, аб ніводным ня можна сказаць з пэўнасьцю, што ён беларускага паходжаньня. Аб хуткасьці, з якой першабытны візантыйскі сьпеў быў асвоены і ператвораны на свой лад мясцовымі сьпевакамі, мы можам толькі дагадвацца. Найранейшыя рукапісы паказваюць на блізкую сувязь паміж візантыйскім і старaславянскім музычнымі запісамі (стаўпавы, крукі, знаменны запіс). Аднак хутка паявілася разнастайнасьць запісаў і шмат новых знакаў, няведамых у грэцкай музыцы. Гэта паказвае, што чужы грэцкі сьпеў ня толькі быў хутка асвоены, але і перароблены на свой лад пад моцным уплывам народнай музыкі. Як і на Ўкраіне, на Беларусі расквітнела шмат мясцовых разнаякасьцяў царкоўнай музыкі і інакш сьпявалася ў Кіеве, інакш у Смаленску, а яшчэ інакш у Полацку ці Тураве. Школы царкоўнага сьпеву квітнелі ў Полацку (992), Тураве (1005), Віцебску (992) і Смаленску (1101). Лікава аднак хоры нават у вялікіх саборах заставаліся малымі да параўнаўча позьняга часу (XV ст.).

З Іпацьеўскага летапісу мы ведаем, што ў 1137 г. на двары князя Мсьціслава "быў рукапаложаны на япіскапа Смаленскага скапец Мануіл; ён быў выдатны сьпявак і прыйшоў з Грэцыі з двума таварышамі".[3]

Вельмі мала іншых імёнаў дайшло да нас з гэтага часу і дзеля гэтага пачаткі беларускай царкоўнай музыкі застаюцца для нас ананімнымі.

**2. Перыяд Вялікага Княства Літоўскага (1245-1569).**

Мангольскі наезд у XII ст. і зьнішчэньне Кіеўскай дзяржавы часова перарвалі культурную сувязь Беларусі з Грэцыяй і Поўднем. У выніку ўтварэньня Вялікага Княства Літоўскага Беларусь у XIV ст. парвала свае сувязі з "рускімі" княствамі на Ўсходзе і накіравала свой погляд на Захад. На жаль, вельмі мала дакументаў дайшло да нас з ажыўленай культурнай дзейнасьці гэтага перыяду.

У галіне царкоўнай музыкі мы можам сказаць з пэўнасьцяй, што ў часе Вялікага Княства Літоўскага знаменны расьпеў дасягнуў свайго найвышэйшага росквіту. З параўнаўча простых формаў першабытнага перыяду вытварылася вельмі абшырная і скамплікаваная сістэма "папевак" (г. зн. узораў) і "фітаў" (арнамантальных фразаў). Мясцовыя розьніцы паглыбіліся і ўся далейшая гісторыя знаменнага расьпеву на Беларусі пайшла ў іншым напрамку, чым, скажам, у Маскоўшчыне. У галіне музычнага запісу "крукі" на Беларусі мелі іншае значэньне, чым у другіх краінах, а апрача гэтага там паявіліся адменныя музычныя знакі, якія нідзе больш не сустракаюцца.[4]

Знаменны сьпеў паводле свайго характару быў вельмі ўрачысты і суровы. Ён зьяўляўся найвышэйшым дасягненьнем беларускай сярэдневяковай царкоўнай музыкі. (Іл. 1).

Апрача дзяка Сенькі з Смаленску, імя якога сустракаецца ў адным з рукапісаў XV ст.,[5] мы

ведаем вельмі мала аб беларускіх сьпеваках гэтага часу.

У паўночных гарадох, як Полацак і Віцебск, царкоўная музыка была падобнай да музыкі ў Ноўгарадзе і Пскове. Аднак далей на поўдзень і захад – асабліва на Падлясьсі – можна было ўжо адчуць уплыў вялікіх галіцкіх культурных асяродкаў, як Пярэмысьль, Львоў і Сандамір.[6] Стары знаменны расьпеў памаленьку ператвараўся ў новы, больш заходні, "Кіеўскі" або лепш "Кіеўска-Літоўскі". Найбольш выдатным помнікам гэтага апошняга ёсьць Супрасьлеўскі Ірмалогіян.

Ужо на самым пачатку, як было сказана вышэй, беларускі знаменны напеў (або стаўпавы, напеў) меў свае асаблівыя рысы, адменныя ад маскоўскага. Далейшая апрацоўка гэтага напеву мясцовымі музыкамі яшчэ больш аддаліла яго ад першапачатковых, у бальшыні агульных для ўсіх, стараславянскіх формаў. У Маскоўшчыне, асабліва ў Ноўгарадзе і Маскве, стараславянскі сьпеў ператварыўся дзякуючы мясцоваму ўплыву ў ведамы знаменны напеў сінадальнага абіходу. На Беларусі і Ўкраіне стары знаменны расьпеў, які ўжо меў шмат сваеасаблівасьцяў, даў пачатак, дзякуючы мясцоваму мастацкаму генію і смаку, зусім новаму цыклу расьпеваў, які мы можам назваць "Кіеўска-Літоўскім". Старыя простыя напевы былі аздобленыя беларускімі музыкамі, якія часта стараліся іх падоўжыць або скараціць, або зусім зьмяніць рытм. Паколькі ў маскоўскай музыцы цяжка знайсьці мелодыі з інтарваламі большымі за адну чацьвертую ці пятую, у беларускіх ірмалогіянах XVII ст. сустракаюцца часта мелодыі з інтэрваламі аднэй шостай, сёмай і цэлай актавы. Суровасьць старога знаменнага расьпеву была зьмягчана і дала месца большай цеплыні і жыцьцярадаснасьці.[7]

Балканскі ўплыў прыходзіў на Беларусь цераз малдаўскі манастыр у Н’ямцэ (баўгарскі ўплыў) і Львоўскае Стаўрапігіяльнае Брацтва (грэцкі ўплыў).[8] У пачатку XV ст. Баўгарын Рыгор Цамблак быў Кіеўскім Мітрапалітам з аседкам у Наваградку (1415-1420). Цамблак быў выдатным царкоўным музыкам і вельмі магчыма, што гэта ён увёў або ўлажыў некаторыя баўгарскія расьпевы, якія сустракаюцца ў беларускіх і ўкраінскіх ірмалогіянах.[9] Балканскія япіскапы нярэдка наведвалі Беларусь. У Супрасьлеўскім Ірмалогіяне ёсьць "надзвычай прыгожая" мелодыя Херувімскай песьні, якая завецца "Царгародзкая". Гэтая мелодыя была запісана манахамі ад патрыяршага сьпевака ў часе адведзінаў Антыёхскага Патрыярха Якіма ў Супрасьлеўскім манастыры ў 1583 г.

Хоць балканскі ўплыў на царкоўную музыку на Беларусі быў наймацнейшы ў XV-XVI стст., аднак трэба прыпушчаць, што напевы з Баўгарыі і Грэцыі траплялі на Беларусь на працягу ўсяго сярэднявечча. Шматлікія мітрапаліты і япіскапы таго часу былі Грэкамі або Баўгарамі; яны прыязджалі на Беларусь з сваімі дыяканамі і сьпевакамі, і іхнія сьпевы былі перайманыя і насьледаваныя Беларусамі. Асабліва добра яны надаваліся для ўрачыстых нагодаў, і якраз для гэтай мэты яны ўжываліся аж да канца XVII ст.[10]

Падсумоўваючы, у канцы XVI ст. на Беларусі існавала некалькі цыклаў царкоўных расьпеваў: Беларускі знаменны або стаўпавы, "Кіеўска-Літоўскі", Супрасьлеўскі, розныя мясцовыя расьпевы і, урэшце, урачыстыя расьпевы, прывезеныя з Грэцыі, Баўгарыі і Сербіі.

Распаўсюджваньне на ўсход лацінскага каталіцызму і адыход ад праваслаўя беларускай шляхты мелі глыбокі ўплыў на далейшае разьвіцьцё беларускай царкоўнай музыкі. Сёньня цяжка сказаць, які ўплыў меў заходні грыгарыянскі сьпеў на стараславянскі царкоўны сьпеў у XIV-XV стст., хоць бяз сумлеву такі ўплыў быў, магчыма цераз лацінскія цэрквы нямецкіх купцоў у Смаленску, Віцебску, Вільні,[11] а таксама цераз каралеўскую капліцу ў Кракаве.[12]

Найбольш заходні ўплыў адчуўся ў галіне музычнага запісу. У першапачатковым перыядзе ўсходнеславянская царкоўная музыка запісвалася пры дапамозе знакаў (крукі, знаменны), якія былі адменаю і далейшым разьвіцьцём грэцкага музычнага запісу. Гэта былі кручкападобныя значкі, якія пісаліся ў адзін рад над лініяй тэксту. З гэтых параўнаўча простых знакаў разьвіліся пасьля вельмі скамплікаваныя "крукі" і "фіты", асабліва ў Маскве і Ноўгарадзе, дзе яны ўжываліся яшчэ ў XVII ст.[13]

На Беларусі, а таксама ў Галіцкай і Карпацкай Украіне, гэты знаменны запіс пачаў занепадаць ужо ў канцы XV ст. Ягонае месца заняў пяцілінейны запіс з квадратнымі нотамі, які тады ўжываўся на Захадзе. На Беларусі ён быў ведамы, як "Кіеўскі" або "Квадратны" запіс. Такі запіс стаўся неабходным з увядзеньнем паліфоніі, бо знаменны выявіўся неадпаведным дзеля запісу гарманізацыі на два, тры ці чатыры галасы. Прыпушчаецца, што "квадратны" запіс быў прывезены на Беларусь гусітамі хутка пасьля Грунвальдзкай бітвы (1410), магчыма праз Гераніма Пражскага й іншых прапаведнікаў.[14] У канцы XVI ст. ён быў распаўсюджаны па ўсёй Беларусі, а ў Маскву ён трапіў толькі ў наступным стагоддзі.

Беларуская музычная літургічная спадчына пабагацела ў XV ст. цераз распаўсюджваньне ў народзе паралітургічных песьняў, як калядкі, песьні на розныя сьвяты, паломніцкія песьні (канты). Бальшыня з іх былі насьледаваньнем заходніх мадэляў, асабліва гусіцкіх і табарыцкіх гімнаў.[15] Гэтыя песьні былі хутка ўспрынятыя вернымі і малыя зборнікі іх пачалі ўжо паяўляцца ў канцы XV ст. Многія мелодыі з гэтых раньніх "канцыяналаў" або "богагласьнікаў" перайшлі пасьля да нармальнага літургічнага ўжытку. Яны былі датарнаваныя да такіх частак Літургіі сьв. Яна Залатавуснага, як "Херувімская песьня" і іх можна спаткаць у Ірмалогіянах Супрасьлеўскім (1601), Львоўскім (1700), а нават у Маскоўскім абіходзе (1772).

Такім чынам шмат ведамых і дарагіх народу напеваў маюць сваю аснову ў гэтых старых народных "кантах" і часта нават носяць іхнае імя. Так напр. Херувімскі напеў "На радуйся" бярэ свой пачатак ад канту "Радуйся радасьць тваю" (гл. таксама Херувімскія "Слуцкую", "Старасімонаўскую" і т. д.).[16] Яны былі ведамыя ня толькі на Беларусі, але распаўсюдзіліся па ўсёй Украіне і Маскоўшчыне і сталіся часткаю агульнай усходнеславянскай музычнай спадчыны.[17]

(Далей будзе)

1 "Первые церковные песнорачители были в столичном Российския державы Богоспасаемом граде Киеве; по неколиких же летех от Киева сие пение некими люборачителями пренесеся до Великого Новаграда; от Великого же Новаграда распростреся и умножися толиком долговременством сего пения учение во вся грады и монастыри великороссийския епархии и во все пределы ея", Гл. Д. В. Разумовский, "Церковное пение в России", Масква 1867-69. бач. 58.

2 R.Palikarova-Verdeil, "La Musique byzantine chez les Bulgares et les Russes" – Monumenta Musicae Byzantinae Subsidia, Vol. III, Kobnhavn 1953, p. 136, 154.

3 "Прэставлен бысьць скопец Мануіл епіскоп Смоленску, певец гораздый іжэ прышэл от Грэк сам трэці". (гл. Н. Финдейзен: "Очерки по истории Музыки в России". М. и. Ленинград 1928, бач. 87).

4 Кароткае апісаньне двух ведамых беларускіх знаменных рукапісаў – кодаксы Львоўскі і Пярэмысьльскі (абодвы з паловы XVI ст.) – можна знайсьці у: Г. дэ ля Прадэль, "Рукапісны помнік беларускай музыкі XVI-га стагодзьдзя", Бацькаўшчына, №. 1 (601), Мюнхэн 1963, бач. 3; і ў G. Pichura "Monuments of Byelorussian Church Music" – Eastern Church Quarterly Vol. XIV, London 1962, pp. 411-12.

5 Гл. Ф.Добрянскнй, "Описание рукописей Виленской Публичной Библиотеки", Вільня 1882, бач. 287, №. 161.

6 Існаваньне квітнеючага культурнага цэнтру ў Заходняй Галіцыі было адчута Разумоўскім (op. cit., бач. 81) і дапушчана G. Millet ("L’Art byzantin chez les Slaves" X. L’Orient et Byzance, V. 2e recueil, 2e partie, Paris 1932, pp. 425-26).

Блізкасьць Галіцыі да Кракава прывяла да таго, што шмат "рускіх" артыстаў шукала шчасьця на двары магутных каралёў Ягайлаўскай дынастыі. Пасьля сьмерці Ядвігі, наступная каралева мела ў 1415 г. групу "рускіх музыкаў" у Кракаве. Кароль Казімір, вялікі любіцель візантыйскага мастацтва, бяз сумлеву меў "рускіх" сьпевакоў у сваёй капліцы. ("Ягайла, а пасьля ягоныя наступнікі,

вельмі цанілі рускіх сьпевакоў". Гл. H. Feicht. "Krakow" – Musik in Geschichte und Gegenwart, Basel 1962, p. 1692).

7 Б. Вольман, "Русские печатные ноты XVIII века", Ленінград 1957, бач. 22.

8 Грэцкая арыентацыя Львоўскага Брацтва (заложанага ў 1429 г.) добра ведамая. Настаўнікі грэцкай мовы былі высланы адтуль у Малдавію ўжо ў 1558 г. (Гл. Разумоўскі, op. cit., бач. 81), а ў 1588 г. два грэкамоўныя дзякі былі высланыя ў Вільню выкладаць гуманістыку ў школе Сьвятадухаўскага Брацтва. (Гл. Д. Сцепкуро, "Виленское Святодуховское Брацтво в 17 и 18 ст.", Труды Киевской Духовной Академии, 1899. Вып. VI, бач. 262).

9 Існуюць пэўныя сумлевы адносна гэтай тэорыі. (Гл. Палікарова-Вэрдэйль, op. cit., бач. 218-19).

10 Прот. И. Вознесенский, "Церковное пение Православной Югозападной Руси", Масква 1898. Вып. I, бач. 17-20.

11 Лацінская царква Багародзіцы ў Смаленску была заложана ў 1229 г.; Віцебск і Полацк вялі ажыўлены гандаль з Рыгаю і Гоцкім пабярэжжам. У Вільні ў XVI ст. было ўжо каля 6 лацінскіх цэркваў, уключна з катэдраю сьв. Станіслава, якая магла пахваліцца сваім хорам ужо ў 1465 г. Другая лацінская школа сьпеву была закладзена пры царкве сьв. Яна ў 1513 г. "Przeznaczona dla 22 uczniyw, z ktyrych 6 miaio њpiewaж w chorze Katedry". (Гл.: Ks. Stanisiaw Zaikski, T.J., "Jezuici w Polsce", Lwyw 1900. Tom I, st.. 179).

12 Няма ніякага сумлеву адносна ўзрастаючага ўплыву лацінскай музыкі на беларускую царкоўную. Цяжкасьць ляжыць у ўстанаўленьні дакладнай даты, калі гэты ўплыў пачаўся. Вельмі праўдападобна, што ўжо ў пачатку XIV ст. элемэнты грыгарыянскага сьпеву праніклі ў праваслаўныя цэрквы, магчыма нават з лацінскім тэкстам. Фларэнцкая Унія (1438) напэўна спрычынілася да ўзмацненьня лацінскага ўплыву, хоць у якой меры – цяжка сёньня ўстанавіць дзеля недахопу пэўных крыніцаў. Ёсьць устаноўленым, што "рускія" сьпевакі былі на двары Ягайлы ўжо ў 1415 г. (Гл. Файхт, op. cit, бач. 1692). Працы такіх вялікіх тэарэтыкаў грыгарыянскага сьпеву, як Майстар з Шыдловіц (XV ст.) і, пасьля, Себастыян з Фэльштыну, не маглі ня мець уплыву на гэтых сьпевакоў. Апрача гэтага беларускія студэнты ў Літоўскіх калегіях у Кракаве і Празе былі знаёмыя з лацінскім сьпевам цераз іхнія ўніверсітэты.

13 Swan, "The Znamienny Chant of the Russian Church" – The Music Quarterly, Vol. XXVI, Nos. 2 & 4, New York 1940.

М. Куліковіч, "Беларуская музыка", Нью Ёрк 1953; Г. дэ ля Прадэль, op. cit.

14 Разумовский, op. cit., бач. 81. Ёсьць вялікае падабенства паміж раньнім квадратным запісам і запісам розных гусіцкіх сьпеўнікаў XV ст., як напр. "Kancional Istebnicki" (J. Chominski i Z. Lissa, "Historia Muzyki Powszechnej", PWM Warszawa 1957, Tom I, str. 241).

15 Лацінскія гімны заўсёды былі тлумачаныя на польскую, літоўскую і славянскую мовы, і пасьля былі хутка асвоеныя беларусамі. Так напр. лацінская калядка "Ангэлюс пасторібус діксіт" ператлумачаная на польскую мову сталася "Анёл пастэжом мувіл", а пасьля, па-славянску, "Ангел пастырем вестіл"; "Стабат матэр" сталася "Стала матка" і т. д. (Гл. П. Бессонов, "Знаменательные года и знаменательнейшие представители последних двух веков в истории церковного русского песнопения", Масква 1872, бач. 32-33). Гэты рух аднак ня быў аднакірунковым. Так напр. візантыйская малітва "Сьвяты Божа" ёсьць вельмі папулярная ў лацінскай Польшчы.

16 Гл. А. Преображенский. "От униатского канта до православной херувимской", Музыкальный Современник, кн. VI, Пецярбург 1915-16.

Старыя польскія канты, як напр. песьня сьв. Станіслава "Гаўдэ Матэр Полёнія", напэўна выконваліся ў віленскай катэдры, якая насіла імя гэтага сьвятога, і іхнія мелодыі былі зьдзіўляюча падобнымі да некаторых "херувімскіх", што спатыкаюцца ў ірмалогіянах XVI і XVII ст.

17 На Беларусі першы канцыянал быў уключаны ў Нясьвіжскі кальвінскі Катэхізм (1563).

**Друкуецца паводле часопісу "Божым шляхам" за 1964 г. (№ 83, сакавік-красавік, с. 8-14; № 84, травень-чэрвень, с. 4-10; № 85, ліпень-жнівень, с. 5-7).**

*Захаваны асаблівасьці лексікі аўтара, выпраўлены памылкі і правапіс асобных словаў ды скаротаў.*

**На фота:** Беларуская знаменная натацыя (з пал. XVI ст.)

"Разам" - старонкі грэка-каталіцкіх семінарыстаў, выпуск № 3 (31) 2008

"Дайсьці да Росіцкай сьвятыні ды ўпасці крыжам"

**Пілігрымка Полацак–Росіца, 2008**

Беларускія грэка-католікі ад пачатку ўдзельнічалі ва ўрачыстасьцях, прысьвечаных памяці Росіцкіх мучанікаў. Апрача ўдзелу ў агульнай праграме, падрыхтаванай айцамі-марыянамі, ужо традыцыйнымі малітоўнымі пунктамі сталіся Акафіст да Багародзіцы і Боская Літургія. Дзякуючы гэтаму рыма-католікі маюць магчымасьць пазнаёміцца з візантыйскай традыцыяй, як часткай багацьця Каталіцкай Царквы.

З мінулага году вернікі БГКЦ уключыліся і ў пешую пілігрымку Полацак – Росіца. На пачатку гэта былі семінарысты і кандыдаты ў семінарыю, пазьней далучыліся яшчэ і іншыя вернікі.

Сёлета маршрут гэтай пілігрымкі нават падоўжыўся: частка пілігрымаў выходзіць у шлях аж з Барысава. Грэка-каталіцкая група ў гэтым годзе, дарэчы, больш шматлікая, далучылася да пілігрымаў у Полацку 5 жніўня.

Раніцай, бачачы апаленыя сонцам твары, неяк цяжка было ўявіць, што гэтыя людзі прайшлі ўжо восем дзён. Увечары, прыбыўшы ўжо на месца начлегу, таксама амаль не адчувалася стомленасьць. Сапраўды, тут можна заўважыць толькі адно: калі б гэта быў звычайны паход – людзі проста пападалі б на другі дзень. Можа, хто і зможа закінуць, маўляў, маладыя ды моцныя могуць прайсьці шмат, але ж ішлі людзі ўсіх узростаў! Дарэчы, нельга не адзначыць, што найстарэйшая асоба мела 77 гадоў!

Асабіста для сябе я адзначыў яшчэ адзін важны момант. Адна справа — людзі, што прайшлі ўжо восем дзён, іншая – мы, што далучыліся на восьмы дзень. Дык вось, пасьля некалькіх гадзін хады я ўжо не заўважаў розьніцы паміж прайшоўшымі ад пачатку і тымі, што далучыліся пазьней, хіба што мы былі менш загарэлыя.

Пасьля першага ж дня само сабой напрошваецца думка аб параўнаньні гэтай пілігрымкі з нашай штогадовай грэка-каталіцкай пілігрымкай з Віцебску ў Полацак, прысьвечанай Полацкім пакутнікам. Стандартныя, неад’емныя асновы пілігрымкі тыя ж самыя: Еўхарыстыя і дарога з малітвай. Розьніца? Напэўна, у Росіцкай пілігрымцы было больш сьпеваў. Дзень пачынаўся з некалькіх песенак — бо ня ўсе, хто адразу ўстае, адразу ж і прачынаюцца... Пасьля сьпяваліся малітвы да Багародзіцы, потым яшчэ некалькі песень, затым – Ютрань; пазьней зноў песьні, Ружанец, зноў сьпевы, Вяночак да Божай Міласэрнасьці, Нешпары (Вячэрня). За ўвесь час, пакуль пілігрымы ў дарозе, мікрафон і гукавы ўзмацняльнік "адпачывалі" толькі на прыпынках...

Пасьля чытаньняў на Ютрані і Нешпарах, а таксама да кожнай таямніцы Ружанцу былі кароткія разважаньні. Іх рыхтавалі самі вернікі, і аднаго дня падрыхтоўка кароткіх разважаньняў дасталася нам – грэка-католікам.

Вельмі важнымі для мяне былі духоўныя выклады на тэму "Убогасьць і багацьце", якія ў перадапошні дзень (хіба самы кароткі па кіламетрах) прапанаваў нам айцец Вячаслаў Пялінак, адказны разам з а. Андрэем Сідаровічам за гэтую пілігрымку.

У апошні дзень, яшчэ за некалькі кіламетраў да Росіцы, на апошнім нашым прыпынку адбылося як бы падсумаваньне пілігрымкі. Кожны меў магчымасьць выказаць свае ўражаньні, свае падзякі, і кожны атрымаў падарунак. Пасьля, нягледзячы на пройдзеныя кіламетры, хацелася як мага хутчэй дайсьці да Росіцкай сьвятыні ды ўпасьці крыжам на падлогу касьцёла, каб падзякаваць Блаславёным мучанікам Антону і Юрыю за заступніцтва.

Мы прыйшлі... Як звычайна, нас прывітаў мясцовы пробашч — а. Чэслаў Курэчка і акрапіў сьвятой вадой. Усе ўвайшлі ў храм, дзе некалькі хвілінаў кожны, упаўшы перад Богам усёй сваёй істотай, мог занесьці Ўсявышняму свае малітвы.

Радасьцю было сустрэць нашых грэка-каталіцкіх сьвятароў і вернікаў, якія дабраліся ў Росіцу іншым чынам. Вечарам, перад іконай Мучанікаў, мы сьпявалі Акафіст Багародзіцы, Якую яны асабліва шанавалі. А ў наступны дзень раніцай, разам з братамі рыма-католікамі, служылі Боскую Літургію.

Вялікі дзякуй Блаславёным Росіцкім мучанікам Антону і Юрыю за магчымасьць пілігрымкі да іхняга Санктуарыя.

Шчыры дзякуй айцам-марыянам – Вячаславу Пялінку і Андрэю Сідаровічу – за іхняе руплівае служэньне падчас Росіцкай пілігрымкі ды за іхні асаблівы клопат пра нас – грэка-католікаў.

Дзякуй... і – "На многія леты!"

**семінарыст Аляксандар Хахлоў**

"Разам" - старонкі грэка-каталіцкіх семінарыстаў, выпуск № 3 (31) 2008

## Несьці Евангельле – значыць несьці Жыцьцё

**Некалькі ўспамінаў**
**з Сусьветнага Дня Моладзі ў Сіднэі**



**К**алі тры гады таму ў Кёльне Папа абвясьціў, што наступны Сусьветны Дзень Моладзі пройдзе ў Аўстраліі, я сказаў сабе і сваім сябрам, што вельмі хачу туды патрапіць. І я разумеў, што гэта немагчыма, таму што вельмі дарага, але ж вельмі хацелася! І вось Бог зрабіў мне такі падарунак.

З Беларусі ў Аўстралію паляцела група з дзевяці чалавек – восем ад Рыма-Каталіцкага Касьцёлу і адзін ад Грэка-Каталіцкай Царквы. У гэтай пілігрымцы з намі быў дапаможны біскуп Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі Ўладыка Антон Дзям’янка. Спачатку — паўтара сутак пералёт з Менску ў Сіднэй, пасьля — амаль 10 дзён у Аўстраліі і ўрэшце прылёт назад, у Менск. У нас лета, у іх – зіма... Зіма там, канешне ж, не такая, як у нас. Днём да +19 градусаў. Клімат іншы зусім – сьпеюць мандарыны, лятаюць папугаі, стаяць зялёныя пальмы. Мушу з жалем сказаць, што кенгуру там ня скачуць проста па вуліцах, як аб гэтым мяне пытаўся ўжо не адзін чалавек. Але яны ёсьць у заапарку, таксама як і каалы і сабакі Дынга, ну і шматлікія іншыя зьвяры ды птушкі.

* * *



**З** аэрапорту нас забралі аўстралійскія эмігранты з Польшчы, так што жылі мы ў польскіх радзінах па тры чалавекі ў сям’і. Ніхто не плаціў гэтым людзям за нашае ў іх пражываньне і зьвязаныя з гэтым клопаты – гэта дабрачыннасьць ад сэрца.

Дык вось, прыляцелі мы ў аўторак днём, трохі адпачылі, пасьля зьездзілі ў Сіднэй, так як жылі мы не ў самім Сіднэі, а непадалёк. Паглядзелі вячэрні горад – ён вельмі прыгожы і сучасны – і паехалі дамоў. Назаўтра, а таксама ў чацьвер і пятніцу, праграма да абеду была аднолькавая: спачатку – казань-разважаньне пра дзеяньне Сьвятога Духа ў жыцьці чалавека, жыцьці супольнасьці і Царквы. Увогуле дэвізам гэтага Сусьветнага Дня моладзі стала цытата з Дзеяў сьвятых Апосталаў: "Вы атрымаеце моц зышоўшага на вас Духа і будзеце маімі сьведкамі" (пар. Дз 1, 8). Пасьля разважаньня ахвотныя складалі сьведчаньні пра дзеяньне Бога ў іх асабістым жыцьці. Мяне яны вельмі моцна ўразілі. Бог дзейнічае так па-рознаму і трэба толькі Яму даверыцца. Пасьля сьведчаньняў была сьв. Імша. На малітве верных (аналаг нашай мірнай літаніі), кожны з нас мог уголас сказаць, за што моліцца, і Царква адказвала супольным: "Выслухай нас, Госпадзе!" Я маліўся за еднасьць хрысьціянаў.

Пасьля імшы – абед і вольны час. Канешне, мы адразу выязджалі ў Сіднэй. У сераду і чацьвер проста аглядалі горад, а ў пятніцу адбылася Крыжовая дарога (набажэнства, падчас якога ўзгадваецца мучаніцкі шлях Ісуса Хрыста), пасьля якой Папа афіцыйна прывітаў пілігрымаў і жыхароў Сіднэя. На наступны дзень, у суботу, усе пілігрымы пешкі прайшлі шлях на поле, дзе сабраліся маладыя католікі з усяго сьвету, каб супольна памаліцца з Папам Бенядыктам XVI. Нас разьмясьцілі ў сектары разам з афрыканцамі і італійцамі. Урачыстае вітаньне прысутных на полі пілігрымаў з усяго сьвету, супольныя набажэнствы, час на сон і з раніцы зноў супольная Літургія з Наступнікам Апостала Пятра – вось галоўная частка ды і наогул сэнс усёй сустрэчы ў Сіднэі. Пасьля Літургіі праграма Сусьветнага Дня моладзі афіцыйна закончылася.



**А**ле гэта было яшчэ толькі 20 ліпеня, а адляталі мы 24-га. Так што з ласкі Божай мы яшчэ пахадзілі па Сіднэі, пабывалі ў аквапарку, наведалі заапарк і зьездзілі на пляж, дзе я нават пакупаўся ў акіяне – так што купаўся зімой. Пасьля пляжу мы запыталіся ў адной дзяўчыны, як праехаць у горад, а яна нам проста прапанавала праехаць у яе аўтамабілі. Ды і ўвогуле мы сустракаліся з зычлівасьцю незнаёмых нам людзей.

**А**днаго разу вельмі хацелася есьці, а кошты дарагія, і вось стаім мы перад прылаўкам і вырашаем, што ўзяць. Пакуль вырашалі, прадавец, гледзячы на нас, узяла нейкую страву і пачала разаграваць. Мы ёй кажам, што гэтага мы не замаўляем, але на яе гэта ніяк не ўзьдзейнічала. Аказалася, што гэта нам проста так. Пасьля іншую страву – таксама проста так! Пасьля мы ўжо самі нешта сабе купілі, а напрыканцы – ізноў жа бясплатна – гаспадыня нам прынесла садавіны. Мы дзякавалі Богу за Ягоную апеку над намі, за зычлівасьць гэтых людзей і напрыканцы засьпявалі ім песьню падзякі.

**Д**ык што ж можна сказаць пра гэтае падарожжа, пра гэтыя дні там, далёка-далёка? Гэта дні, напоўненыя пачуцьцём блізкай прысутнасьці Бога і Ягонай апекі над маім жыцьцём. Як калісьці Пятру, так і мне захацелася паставіць тры намёты і застацца там, затрымаць гэтае пачуцьцё радасьці ў сабе. Але Госпад кліча далей, кліча сьведчыць усім, што Ён ёсьць, што жыцьцё ў супольнасьці з Ім становіцца іншым, прыносіць радасьць і супакой. Як сказала адна дзяўчына з нашай групы, кожны з нас мусіць узяць на сябе па мільёну чалавек з разьліку колькасьці ўдзельнікаў нашай пілігрымкі на колькасьць жыхароў нашае краіны і сьведчыць гэтым людзям пра спатканьне з Богам, з жывой Царквой, з Пераемнікам Апостала Пятра — Папам Бенядыктам XVI, з веруючай моладдзю, якой не абыякавы свой лёс, лёс сваіх родных і Бацькаўшчыны, а нават і ўсяго сьвету. Бо несьці Евангельле – значыць несьці сьвятло Хрыста, несьці Жыцьцё кожнаму чалавеку.



**Ж**ыцьцё з Хрыстом робіць нас свабоднымі, зьнішчае межы і адкрывае нас на бліжняга. Па ўсім Сіднэі хадзілі людзі рознага колеру скуры, розных нацыянальнасьцяў, ва ўсіх розная мова – столькі моваў ня вывучыць нават за ўсё жыцьцё. Але з Хрыстом гэтага і ня трэба рабіць – бо Хрыстос вучыць нас адзінай мове – мове Любові. То ў адным, то ў іншым месцы маладыя людзі праслаўлялі Бога радаснымі сьпевамі пад

гітары, альбо таньчылі, славячы Бога таксама і танцам. І мне зразумелая гэтая радасьць – бо Хрыстос вызваліў нас ад сьмерці і прывёў да Жыцьця.

Наступны Сусьветны Дзень моладзі пройдзе ў Мадрыдзе ў 2011 годзе. Гэта нашмат бліжэй, таму я спадзяюся, што нас, беларусаў, паедзе больш і мы з вялікай радасьцю і вялікім духоўным плёнам разам правядзем гэты незабыўны час!

**Сяргей Раюнец, семінарыст БГКЦ**

## На фота:

1. Маладыя каталікі з Беларусі ў аўстралійскім Сіднэі.

"Разам" - старонкі грэка-каталіцкіх семінарыстаў, выпуск № 3 (31) 2008

## «Трэба даверыцца Богу і зрабіць крок Яму насустрач»

*(Сьведчаньне семінарыста БГКЦ на сустрэчы моладзі ў Івянцы)*

Кожны з нас рана ці позна ставіць перад сабой пытаньне: для чаго я жыву? Каб быць шчасьлівым, неабходна абавязкова знайсьці адказ.

Пасьля школы я паступіў ва ўніверсітэт на гістарычны факультэт. За першыя гады вучобы я адкрыў для сябе шмат цікавага: новыя знаёмыя, новыя дысцыпліны, самастойнае жыцьцё, поўная свабода, як тады здавалася. Але з часам я пачаў адчуваць пустату ў сэрцы, чагосьці не хапала, і не было радасьці, нягледзячы на маладыя гады. Толькі сёньня я разумею, што гэта Бог клікаў мяне да Сябе. Яго голас гучыць заўсёды, і ад нас залежыць, ці мы яго пачуем і адкажам. З малых гадоў я не сумняваўся, што Бог існуе. Хачу вам сказаць, што Бог карыстаецца ўсімі сродкамі. Галоўнае, каб чалавек зразумеў гэты знак. Гэта могуць быць розныя знакі і, зразумела, людзі, якіх ставіць на нашым шляху Бог. Для мяне такім чалавекам быў а. Віктар Данілаў — грэка-каталіцкі сьвятар з Горадні (які некалі прыехаў сюды з Расеі). Незвычайны чалавек і сьвятар, а. Віктар – сапраўдны апостал Хрыста нашага часу, а таксама мучанік, вязень ГУЛАГу. Чалавек малітвы.

З першых дзён знаёмства з ім я адчуў, што ў маім сэрцы зьявіўся агонь, які ўсё мацней распальваўся. Хацелася быць падобным да яго, слухаць і выконваць усе ягоныя настаўленьні. Я ведаў, што без выкананьня Божых законаў, без малітвы гэта немагчыма. У той час я жыў у студэнцкім інтэрнаце. Прыйшло разуменьне, што разам з сябрамі-студэнтамі патрэбна зьбірацца на сумесную малітву. З цягам часу пачалі запрашаць ўсё новых людзей. Паўстала невялічкая малітоўная група студэнтаў. (Сярод іх вельмі актыўным быў мой сябра Зьміцер; ён сёньня манах-рэдэмптарыст, вучыцца ў семінарыі ў Львове). Радасьць Хрыста напаўняла ўсіх нас. Час ад часу мы запрашалі да сябе сьвятароў, семінарыстаў, манахаў. Гэта быў блаславёны час.

Аднойчы я зразумеў, што Бог кліча мяне да чагосьці большага — прыйшла думка пра сьвятарства. Але, разумеючы, што гэта патрабуе вялікіх намаганьняў, я пэўны час уцякаў ад Бога. Чалавек заўсёды хоча, каб усё было проста. Але так не бывае. Трэба даверыцца Богу і зрабіць крок Яму насустрач, нават калі гэта палохае. Бог усё растлумачыць у свой час. І вось цяпер я — вернік Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, а таксама вучуся на 4 курсе духоўнай семінарыі.

Івянец, 19 ліпеня 2008 г.

**Андрэй Гайдукевіч**

"Разам" - старонкі грэка-каталіцкіх семінарыстаў, выпуск № 3 (31) 2008

## «Нябесны Ўладару, пасяліся ў нас!»

**Нататкі грэка-каталіцкай моладзі — удзельнікаў сустрэчы**
**"Міждыяцэзіяльнай сустрэчы моладзі Івянец-2008"**

**АКАФІСТ ДА СЬВЯТОГА ДУХА**


Калі ў ноч 20 ліпеня 2008 г. (паводле менскага часу) дзясяткі тысячаў каталіцкай моладзі з усяго сьвету, сабраныя ў Сіднэі (дзе быў тады дзень), маліліся разам з Сьвятым Айцом Бенядыктам XVI у рамках Сусьветнага Дня моладзі (СДМ-2008), больш за дзьве тысячы маладых людзей з розных куткоў Беларусі, сабраныя ў івянецкім касьцёле айцоў-францішканаў на Міждыяцэзіяльнай сустрэчы моладзі, сьпявалі Акафіст да Духа Сьвятога. Акафіст быў адслужаны перад іконай Хрыста Чалавекалюбцы (іконай Божай Міласэрнасьці). Малітву ўзначальваў Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі Дастойны Архімандрыт Сяргей (Гаек) у саслужэньні душпастыра лідзкай грэка-каталіцкай парафіі а. Аляксандра Шаўцова (цяпер ён служыць ужо ў Полацку – Рэд.). Паводле заклiку Архімандрыта Сяргея, словамі Акафісту да Духа Сьвятога моладзь малілася за Прадстаўніка Сьвятога Айца ў Беларусі – Апостальскага Нунцыя Архібіскупа Марціна Відавіча.

Сьпяваў акафіст менскі грэка-каталіцкі міжпарафіяльны хор "Прасфара", да якога далучыліся некаторыя семінарысты БГКЦ. Але ў хуткім часе ўжо ўся моладзь, сабраная ў храме, сьпявала пры-пеў "О Нябесны Ўладару, пасяліся ў нас!" Такім чынам беларуская моладзь распачынала трэці дзень агульнабеларускага спатканьня "МСМ Івянец-2008". Варта дадаць, што акрамя рыма-католікаў і грэка-католікаў у сустрэчы ў Івянцы ўдзельнічала праваслаўная моладзь ды моладзь з пратэстанцкіх супольнасьцяў, а таксама тыя, хто яшчэ шукае свой шлях да Бога.

Пасьля акафісту, нягледзячы на позьні час – а гэта была ўжо другая гадзіна ночы (у Аўстраліі – 12 гадзінаў дня),– сотні вачэй узіраліся ў экран тэлебіма, дзе паказвалі, што адбывалася ў далёкай Аўстраліі, на Сусьветным Дні моладзі.

**ЯРАРХІ НА ФОРУМЕ МОЛАДЗІ Ў ІВЯНЦЫ**


20 ліпеня 2008 г. урачыстай Імшой, якую ўзначаліў Мітрапаліт Менска-Магілёўскі Тадэвуш Кандрусевіч і якую саслужылі таксама Кардынал Казімір Сьвёнтэк, Біскуп Казімір Вялікаселец і Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі Архімандрыт Сяргей Гаек, завяршылася "Міждыяцэзіяльная сустрэча моладзі Івянец-Сіднэй, 2008". Найдастойны Ўладыка Мітрапаліт скіраваў да ўдзельнікаў "моцнае і яскравае" казаньне пра роль хрысьціянскага сьведчаньня моладзі ў сёньняшнім сьвеце.

Форум "МСМ Івянец-2008" праходзіў з пятніцы 18 ліпеня па нядзелю 20 ліпеня 2008 году і быў арганізаваны Канферэнцыяй Каталіцкіх Біскупаў Беларусі, каб даць беларускай моладзі магчымасьць духова далучыцца да Сусьветнага дня моладзі ў Сіднэі. У далёкую Аўстралію паехала толькі 10 маладых католікаў з Беларусі, сярод якіх і семінарыст БГКЦ Сяргей Раюнец. Гэтую групу суправаджаў дапаможны біскуп Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі Ўладыка Антон Дзям’янка.

У Івянец на міждыяцэзіяльную сустрэчу моладзі прыязджалі таксама і іншыя беларускія рыма-каталіцкія біскупы: Уладыка Аляксандар Кашкевіч і Ўладзіслаў Блін. А ўвесь час былі з намі Мітрапаліт Тадэвуш і Архімандрыт Сяргей.

**УДЗЕЛ БГКЦ**


На пачатак форуму ў Івянец прыехалі нашыя грэка-каталіцкія сьвятары а. Яўген Усошын з Менску, а. Андрэй Крот з Горадні (яму было даручана весьці прэзентацыю БГКЦ для ўдзельнікаў форуму) і а. Ігар Кандрацьеў з Берасьця разам з удзельнікамі хору харызматычнай супольнасьці "Маран ата", якія сьпявалі на канцэрце вечарам, у пятніцу, 18 ліпеня.

У суботу, 19 ліпеня, у праграме "МСМ Івянец–Сіднэй, 2008" удзельнічалі сьвятар БГКЦ а. Андрэй Буйніч, які рупліва спавядаў моладзь, і с. Вікторыя з Менску. У той жа дзень пасьля абеду з сьведчаньнем пра сваё пакліканьне ў БГКЦ выступаў перад удзельнікамі моладзевага форуму семінарыст Андрэй Гайдукевіч. (Тэкст ягонага сьведчаньня гл. на с. 10). Ва ўсёй праграме спатканьня МСМ-2008 (і музычнай майстэрні) удзельнічаў а. Аляксандар Шаўцоў і трое семінарыстаў (Андрэй Гайдукевіч, Аляксандар Хахлоў і Даніла Мысьленцаў) ды група дзяўчатаў з хору "Прасфара".

**МУЗЫЧНАЯ МАЙСТРОЎНЯ Ў ІВЯНЦЫ**

А як усё пачыналася? 14 ліпеня 2008 году распачалася штогадовая "Музычная майстэрня" ў мястэчку Івянец Валожынскага раёну Менскай вобласьці. Хлопцы і дзяўчаты, каталікі двух абрадаў з розных куткоў Беларусі, Польшчы і Расеі, прыехалі, каб навучыцца праслаўляць Госпада сваімі сьпевамі, граньнем ды нават груканьнем у барабаны. Для асабліва здольных і ахвотных быў арганізаваны курс рэгентаў хору. Харавы сьпеў займаў большую частку ўсёй праграмы. На начлег нас прымалі ў свае хаты мясцовыя пабожныя жыхары – вернікі мясцовай рыма-каталіцкай парафіі.

Пачынаўся дзень з Ютрані (паводле рыма-каталіцкай традыцыі), далей былі заняткі ў харавой групе, сьвятая Імша, падчас якой розныя сьвятары вяшчалі Слова Божае да ўдзельнікаў музычнай майстэрні. Пасьля абеду і паабедзеннага перапынку пачыналіся заняткі ў абраным кірунку: праца над пастаноўкай голасу, рэгенцкі курс, курс ігры на гітары і барабанах. Вечар жа быў напоўнены праслаўленьнем Госпада. Адбывалася гэта на сьпецыяльна пабудаванай сцэне, пад гучныя сьпевы і танцы, якія былі падрыхтаваныя арганізатарамі і ўдзельнікамі музычнай майстэрні.

У пятніцу, 18 ліпеня, "Майстэрня" ўлілася ў праграму агульнабеларускай сустрэчы каталіцкай моладзі "МСМ Івянец-Сіднэй, 2008". Як адзначыў у звароце да моладзі Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч, "францішкане першыя адгукнуліся на прапанову зрабіць "штосьці такое" і ЗРАБІЛІ!.." Вось чаму гэтая сустрэча моладзі адбылася менавіта ў Івянцы. Калі спачатку нас было пару соцень, то ў пятніцу, пад вечар, на час першай трансмісіі з Аўстраліі, дзе ў гэты самы час разам са Сьвятым Айцом сабралася моладзь з усяго сьвету, нас было ўжо амаль 2000.

**Блаславеньне дажджом**

У суботу, 19 ліпеня, прыехала група грэка-каталіцкай моладзі з розных парафіяў БГКЦ і актыўна далучылася да праграмы форуму моладзі. Але субота і пачатак нядзелі адзначыліся дажджом, часам нават праліўным. Тады вялікай дапамогай у тым, каб добра падрыхтавацца да атрыманьня дароў Сьвятога Духа, стаўся вялікі намёт, які арганізатарам МСМ-2008 у Івянцы ласкава пазычылі браты пратэстанты з Менску. Гэта быў каштоўны знак экуменічнага супрацоўніцтва ў справе евангелізацыі. У гэтым намёце ў суботу праходзіла сэсія сьведчаньняў, духоўныя выклады Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча і Сьвятая Імша, якую ўзначаліў Кардынал Казімір Сьвёнтэк.

Дождж працягваўся, і здавалася, што спатканьне магло "праваліцца", таму што частка праграмы павінна была адбывацца на вуліцы. Але жаданьне еднасьці і сулучнасьці з Сьвятым Айцом ды моладдзю ўсяго сьвету, што сабралася ў Сіднэі, жаданьне пачуць словы Папы саргавалі юнакоў і дзяўчат, а Божая ласка, якая, здавалася, сплывала разам з дажджом, давала сілы, каб сьведчыць аб сваёй прыналежнасьці да адзінай Паўсюднай Царквы, каб сьведчыць аб сваім жаданьні прыняць моц Сьвятога Духа і быць жывым Евангельлем у сёньняшнім сьвеце.

**Аляксандар Хахлоў,**
**Даніла Мысьленцаў**

## Пілігрымка – шлях да Бога

Быць разам з Богам – адно з падставовых жаданьняў чалавека, якое можа лёгка згубіцца сярод штодзённых патрэбаў. Царква дае вернікам шмат спосабаў, каб яны маглі стаць бліжэй да Бога.

Пілігрымка да месцаў, у якіх адбыліся важныя для духоўнага жыцьця падзеі, зьяўляецца адной з старажытных формаў далучэньня да сьвятасьці. У хрысьціянстве з IV стагоддзя людзі хадзілі ў Палестыну, да месцаў, зьвязаных з важнымі падзеямі ў жыцьці Ісуса Хрыста. З часам таксама зьявіліся пілігрымкі да мясцовых сьвятыняў, звычайна да манастыроў і цэркваў, дзе захоўваюцца цудатворныя іконы, рэліквіі мучанікаў і сьвятых.

Нягледзячы на высокія мэты пілігрымкі, яна ўтрымлівае нябесьпеку ператварыцца ў паход, мала зьвязаны з рэлігійнасьцю, а нават і можа пашкодзіць духоўнасьці чалавека. Сьвяты Рыгор Багаслоў піша пра людзей, якія ходзяць у пілігрымкі дзеля цікаўнасьці і з якімі здараюцца нядобрыя гісторыі і спакусы. Сёньня існуе небясьпека ператварэньня летніх пілігрымак у адну з формаў адпачынку, у так званы рэлігійны турызм. І сапраўды, гэта даволі цікава — прайсьціся некалькі дзён пешкі на прыродзе, у супольнасьці з цікавымі людзьмі, паглядзець на гістарычныя помнікі, на жыцьцё духоўных асобаў.

Асноўная задача — захаваць сапраўдны духоўны сэнс пілігрымкі — ляжыць на плячах сьвятароў. Акрамя арганізацыйна-распарадчых пытаньняў, яны выконваюць Тайны Еўхарыстыі, Споведзі, прапаведуюць Слова Божае, з імі можна паразмаўляць на тэмы, зьвязаныя з верай. Важнае месца падчас пілігрымкі займае малітва. Кожны дзень распачынаецца з Сьвятой Літургіі. Пакуль пілігрымы ідуць, яны моляцца Ружанец, Ісусаву малітву, сьпяваюць рэлігійныя песьні. Шмат залежыць ад паслухмянасьці і дысцыпліны пілігрымаў. Чалавек схільны глядзець на сьвет і іншых адпаведна свайму пункту гледжаньня. Аднак з часам ён вучыцца бачыць сітуацыю ў больш шырокім кантэксьце, гэта значыць вачамі іншых.

Гэта ня так проста з прычыны прыроднага эгаізму і слабасьці чалавечай натуры. Таму як і ўсякая супольнасьць, супольнасьць пілігрымаў падпарадкоўваецца пэўным правілам, якія заснаваныя на павазе і любові да бліжняга.

* * *

Пілігрымка Віцебск–Полацак у гэтым годзе прайшла пад дэвізам "Любоў Хрыста заахвочвае нас" (2 Кар 5, 14). Трэба адзначыць, што пілігрымка ўжо ня першы год носіць міжнародны характар. У гэтым годзе ў ёй прымалі ўдзел вернікі з Украіны, Польшчы, Расеі, Бельгіі і Францыі. Было шмат моладзі. Важна, што асноўным матывам удзелу маладых людзей зьяўляецца менавіта пошук Бога. Гэты факт надае персьпектыву разьвіцьця хрысьціянства і Царквы ў Беларусі, заахвочвае сьвятароў і семінарыстаў да самаадданага і кампетэнтнага служэньня. Было шмат новых і цікавых людзей з рознымі поглядамі на жыцьцё і рэлігію, і гэта надавала пілігрымцы ўніверсальны характар, тым самым зьдзяйсьняючы ўніверсалізм Хрыстовай любові.

Парадавала ў гэтым годзе і надвор’е падчас пілігрымкі. Сонейка, што прыгравала раніцай, удзень хавалася ў аблокі, каб не было горача. А вечарам невялікі дожджык, змываючы стомленасьць, падбадзёрваў прайсьці апошнія некалькі кіламетраў да месца начлегу. Штогод шлях пілігрымаў заканчваецца ў суботу вечарам у грэка-каталіцкім манастыры Барыса і Глеба. Позна вечарам служыцца Вячэрня з ліцьцёй, у часе якой чытаецца апісаньне сьмерці братоў Барыса і Глеба ад рукі іх брата Сьвятаполка. Гэтая трагічная гісторыя ня можа пакінуць абыякавым нікога. Кожны можа запытаць у сябе, наколькі ягоны шлях да Полацку быў духоўным подзьвігам і шляхам да Бога.

Пілігрымка скончылася ў нядзелю ўрачыстай Боскай Літургіяй. Пасьля супольнага абеду ўдзельнікі разьехаліся да сваіх дамоў, але можна быць упэўненым, што агеньчык Хрыстовай любові і дагэтуль гарыць у іх сэрцах.

**семінарыст Аляксей Філіпенка**

"Разам" - старонкі грэка-каталіцкіх семінарыстаў, выпуск № 3 (31) 2008

## Жыцьцё хрысьціяніна – гэта дарога

Дарога да Бога, дарога да разуменьня бліжняга, дарога да самога сябе. Дарога, шлях – гэта заўсёды няпроста. На шляху нас могуць чакаць розныя цяжкасьці, перашкоды, небясьпекі, і, каб пераадолець іх, не абыходзіцца бяз рызыкі, высілкаў і намаганьняў... Дарога хрысьціяніна патрабуе яшчэ й ахвярнасьці, дабраахвотнага ўміраньня плоці. Гэтым летам семінарысты БГКЦ вучыліся крочыць такой дарогай. Давайце ж на гэтых старонках далучымся да іх досьведу, пройдзем кавалак дарогі РАЗАМ.